КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 5 (374) ◂ 7 лютага ◂ 2014 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**АЛЕГ ВОЛЧАК**

Стар. 5

Паважаныя чытачы! У мінулым нумары, па віне рэдакцыі, замест фатаздымка Глеба Фетысава быў размешчаны фатаздымак Вячаслава Фетысава. Прыносім свае прабачэнні.

**КРЫЗІС ВА УКРАІНЕ: ПОГЛЯД З ПРАВІНЦЫІ**

Адной з самых гарачых кропак у вайне за рэгіёны аказаліся Чаркасы. Пра асаблівасці бунту ва ўкраінскай правінцыі Алег Новікаў размаўляе з чаркаскім журналістам Паўлам Пачапцовым

Стар. 11

**ЯКОЙ БУДЗЕ РАСІЯ ПАСЛЯ СОЧЫ?**

Алімпіяда ў Сочы яшчэ не пачалася, аднак эксперты ўжо актыўна спрачаюцца, наколькі яе вынікі паўплываюць на фізіяномію пуцінскага рэжыму

Стар. 13

**10 ГАДОЎ ЗА ВЕРШ**

Стар. 15

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ ПРА ТАТАЛІТАРНАЕ СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ**

У артыкуле Сяргея Пульшы

▸ **З НАГОДЫ**

## ХТО ПЕРАШКАДЖАЕ САПРАЎДНАЙ ДЭМАКРАТЫІ?

**Сяргей ПУЛЬША**

**Дзеянні мясцовых распараджальнікаў выбарчага працэсу выглядаюць так, быццам бы яны ўсяляк замінаюць здзяйсненню мары Аляксандра Рыгоравіча ўбачыць на мясцовых выбарах 75 працэнтаў выбаршчыкаў.**




Ужо падчас збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у кандыдаты ў дэпутаты назіраецца спроба сарваць выбары. Яскрава гэта паказалі пікеты актывістаў аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», якія прайшлі 2 лютага ў Мінску. Невядомыя «людзі ў цывільным» ушчыльную здымалі пікетоўцаў на відэакамеры, абражалі і пагражалі ім, і ўвогуле ўсяляк правакавалі на нейкія эмацыйныя дзеянні. Ля ўніверсаму «Беларусь» сябар Завадской выбарчай камісіі Вольга Крыжаноўская сумесна з супрацоўнікамі міліцыі патрабавалі спыніць пікет па зборы подпісаў за сябра аргкамітэту БХД, а таксама спрабавалі забраць у іх падпісныя аркушы. Супрацоўнікі міліцыі пагражалі арыштаваць удзельнікаў пікету ля гандлёвага цэнтра «Глоба».

У выніку прамоўцу БХД Максіму Гацаку Кастрычніцкая раённая выбарчая камісія Мінска 3 лютага аднагалосна вынесла папярэджанне. Прадстаўнікі камісіі палічылі незарэгістраванай сімволікай бел-чырвона-белую расцяжку, а таксама ўлічылі заяву сябра ініцыятыўнай групы пра тое, што выбараў у Беларусі няма і ўсе дэпутацкія месцы ўжо падзеленыя.

Пакуль актывісты па стварэнні БХД яшчэ рыпаюцца, некаторыя вырашылі адразу кінуць дурную справу. Сябры Партыі БНФ на Піншчыне прынялі рашэнне не ўдзельнічаць у мясцовых выбарах, і паведамілі пра гэта на Брэсцкай абласной радзе ПБНФ.

Пінск на мерапрыемстве прадстаўлялі Аляксандр Рамановіч і дэпутат Пінскага гарсавета 1991–1999 гадоў Аляксандр Аўсяенка. «Гэтыя выбары пройдуць як заўсёды, няма сэнсу ў іх удзельнічаць, бо нічога не змянілася. Можа, уладам і патрэбна пляяда кандыдатаў ад дэмакратычнай апазіцыі для паказухі, а людзі сапраўды хочуць сапраўдных выбараў, інтрыгі, барацьбы. На жаль, да гэтага мясцовыя ўлады не гатовыя», — заявіў Рамановіч.

Так што навідавоку канфлікт інтарэсаў, у якім, як ні дзіўна, Аляксандр Лукашэнка аказваецца на баку прадстаўнікоў апазіцыі. Ёсць інтарэс Аляксандра Лукашэнкі, каб народ прыйшоў на выбарчыя ўчасткі. Ёсць інтарэс народу, які прагне «дзвіжухі» на гэтых выбарах. Ад актыўнасці кандыдатаў у немалой ступені залежыць і яўка на ўчасткі. А ёсць інтарэс мясцовых «выканаўцаў», якія ўсяляк спрабуюць збіць выбарчую актыўнасць, тым самым збіваючы і яўку. То бок, інтарэс «выканаўцаў» уступае ў канфлікт з інтарэсам Аляксандра Рыгоравіча.

Гэты канфлікт тым больш відавочны, калі ўзгадаць сустрэчу кіраўніка дзяржавы са старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай 2 снежня ўжо мінулага года. Маючыя адбыцца выбарчыя кампаніі ў Беларусі павінны стаць дэманстрацыяй сапраўднай дэмакратыі, казаў тады Аляксандр Лукашэнка. «Выбары будуць вельмі сур'ёзныя. Мы сур'ёзна павінны да гэтага перыяду рыхтавацца. І хацелася б, каб гэтыя выбары сталі дэманстрацыяй сапраўднай дэмакратыі. Тут мы павінны ў рукі народу аддаць усё для таго, каб народ сам вызначыўся, хто будзе кіраваць ім і дзяржавай, як будзе развівацца краіна і ў якім кірунку. Гэта маё жалезнае меркаванне», — падкрэсліў тады правадыр Беларусі.

Чаму раптам у Аляксандра Рыгоравіча і ў «выканаўцаў на месцах» узнік канфлікт інтарэсаў?

Палітолаг Валер Карбалевіч лічыць гэты канфлікт даволі звычайным для беларускай улады. «З аднаго боку, уладам трэба правесці мабілізацыю народа на перадвыбарчыя ўчасткі, а з іншага — правесці выбары так, каб «за дужкамі» выбарчай кампаніі засталася палітычная кампанія. Паміж гэтымі Сцылай і Харыбдай улады і будуць балансаваць», — кажа Карбалевіч.

Тое, што Аляксандр Лукашэнка выказваецца на карысць дэмакратызацыі, а практыка паказвае разыходжанне словаў са справамі — гэта таксама, на ягоную думку, звычайная з'ява. «Тое, што дэкларуе Аляксандр Лукашэнка, неаднаразова разыходзілася са справамі, і такая сітуацыя існуе столькі, колькі існуе рэжым. Гэта ўжо рытуал, які выконваецца рэгулярна: казаць адно, а на выхадзе атрымліваць зусім іншае. Напрыклад, для мяне тое, што гэтыя выбары будуць праходзіць па больш жорсткім сцэнары, чым папярэднія, стала відавочна не тады, калі ўлады накінуліся на пікеты БХД, а калі не зарэгістравалі ініцыятыўныя групы за вылучэнне кандыдатамі ў дэпутаты лідара Партыі БНФ Аляксея Янукевіча і лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі. Каб у іншай краіне ўлады не зарэгістравалі ініцыятыўныя групы лідараў буйнейшых палітычных партый — гэта быў бы шалёны скандал. А ў нас гэта паказчык таго, што ні ў якую дэмакратыю ўлады гуляць не збіраюцца, і пытанні іміджу, напрыклад, на міжнароднай арэне іх проста не хвалююць», — мяркуе палітолаг.

Але ўсё ж, і самі ўлады, і вялікая частка грамадства ведаюць — мясцовыя выбары і мясцовыя дэпутаты анічога не вырашаюць. Маглі б хаця б для праформы зрабіць «бачнасць дэмакратыі».

«Для мяне пытанне не ў тым, каб «маглі б даць больш волі». Пытанне палягае ў іншым: улады: «А навошта з імі цырымоніцца»? Ва ўлады зараз няма абмежаванняў ані ў іміджавым, ані ў якім іншым плане, няма ані знешніх, ані ўнутраных перашкодаў для таго, каб цырымоніцца з апазіцыяй. Няма перад кім праяўляць лібералізм. Таму ўлада дзейнічае ў абсалютна звыклым рэжыме», — лічыць Карбалевіч.

Ну а што тычыцца яўкі на выбары… Дык яе звыкла альбо «намалююць», альбо ўключаць адміністрацыйны і прапагандысцкі рэсурсы. І Лукашэнка будзе задаволены колькасцю выбаршчыкаў, і «мясцовыя выканаўцы» атрымаюць выбары «без палітыкі». А тое, што гэта не «сапраўдная дэмакратыя» — ну хто ж пра гэта ўзгадае…

СКАНДАЛ

# ПАЗБАВІЛІ ПРАВОЎ НА 2 ГАДЫ

Мікола ДЗЯЦЮК

**Кіроўца аўтобуса Аркадзь Крачун, які набыў скандальную славу пасля размяшчэння ў сецібе відэападборкі сваіх ДТЗ, пазбаўлены правоў.**

Аркадзь Крачун, кіроўца мінскага аўтобуса, які за 2013 год трапіў у 20 аварыяў, стаў героем інтэрнэту. Ролік пра тое, як ягоны аўтобус уразаецца ў машыны, ужо набраў больш за 200 тысяч праглядаў.

І хаця доўгі час у яго не было праблемаў з ДАІ, некаторыя эксперты і калегі палічылі дзеянні вадзіцеля небездакорнымі ў шэрагу выпадкаў. Меркаванні карыстальнікаў інтэрнэту таксама падзяліліся — многія называлі Крачуна "вар'ятам" і заклікалі адабраць правы.

Урэшце правы ў яго сапраўды адабралі. Ажно на два гады.

Сам вадзіцель вінаватым сябе не лічыць. Маўляў, беларускія вадзіцелі толькі між сабой могуць пакрычаць, што на дарозе «нехта не мае рацыі, падразае, і ўвогуле казёл», а як даходзіць да справы — «язык за вуха засунуў, устаў на карачкі і збег у кусцік, абы не чапалі».

«Мяне ж пакаралі за тое, што падняў вэрхал», — сказаў ён у інтэрв'ю «Белгазеце». У сваім водгуку на гісторыю Крачуна пад загалоўкам «Кіроўца, які хацеў стаць Богам» Аляксей Хадыка на сайце НЧ пісаў: «І вось як у кроплі вады ў гісторыі з Крачуном адбіваецца сённяшняя сістэма арганізацыі беларускага грамадства. Крачун заўсёды неабвяргальны: бо ён — кіроўца дзяржаўнай машыны».

Але ж справа ў тым, што кіроўца дзяржаўнай машыны ў Беларусі толькі адзін. Усе астатнія — пасажыры. Якім праяўляць ініцыятыву не дазваляецца, згодна з правіламі руху.

Крачун гэтага не разумеў, хоць і мусіў бы, як прыхільнік палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.

ЗВАРОТ

# ГРАМАДСКАСЦЬ СУПРАЦЬ МІТРАПАЛІТА ПАЎЛА

Марат ГАРАВЫ

**Напрыканцы студзеня з'явіўся зварот супраць прызначэння мітрапаліта Паўла кіраўніком БПЦ. За гэты час пад зваротам падпісаліся больш за 50 прадстаўнікоў беларускай грамадскасці.**

У звароце адзначаецца, што Масква прыслала ў Беларусь новага патрыяршага экзарха — былога расійскага мітрапаліта Разанскага і Міхайлаўскага Паўла (Панамарова), цалкам праігнараваўшы інтарэсы народа, Беларускай праваслаўнай царквы, і нават кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, якія хацелі мець свайго мітрапаліта з беларускага кліру.

Аўтары звароту звязваюць прызначэнне новага галоўнага русіфікатара мітрапаліта Паўла з расійскім крэдытам.

«Экзарх Павал не з'яўляецца грамадзянінам Беларусі і не валодае нацыянальнай мовай, што груба парушае беларускае заканадаўства. Але чаго не зробіш дзеля ўратавання ўлады.

Выглядае здзекам з беларускага народу — ахвяры Чарнобылю — прызначэнне галоўным духоўным акармляльнікам для праваслаўных беларусаў саноўнага святара, які адназычыўся наступным цынічным выказваннем: *«В Росии сейчас существует огромное количество средств массового уничтожения, у нас есть и атомное, и бактериологическое оружие. Когда наш народ будут загонять в угол, нам ничего не останется, как открыть краник чернобыльский»*.

Аўтары звароту адзначаюць, што стан РПЦ далёкі ад ідэалу (пра гэта сведчаць, напрыклад, выказванні прафесара Маскоўскай духоўнай акадэміі, пратадыякана Андрэя Кураева, факты карупцыі, гомасэксуалізму ў манастырах, акадэміях і семінарыях, звышраскоша ва ўбранстве і побыце высокіх іерархаў і святароў). Усё гэта выклікае адток ад РПЦ вернікаў, якія пераходзяць у іншыя канфесіі.

У храмах Беларусі падчас набажэнстваў, пры правядзенні таямніцаў хросту, споведзі, пахавання, у нядзельнай школцы не гучыць беларуская мова.

Падпісанты звароту выказваюць пратэст супраць прызначэння расійскага мітрапаліта галавою БПЦ без уліку інтарэсаў беларускай нацыі, бо такое чарговае навязванне высокага іерарха з РПЦ пярэчыць адносінам брацтва, роўнасці, павагі і ўзаемадаверу двух суседніх народаў Беларусі і Расіі.

**Сярод падпісантаў звароту** *айцы Вікенці Кавалькоў і Леанід Акаловіч, мастакі Генадзь Драздоў, Аляксей Марачкін і Алесь Цыркуноў, гісторык Ігар Кузняцоў, мовазнаўца Лявон Баршчэўскі, паэт Георгі Ліхтаровіч, журналіст Аляксандр Тамковіч, грамадскія актывісты Мікола Бамбіза, Алесь Макаеў і Ніна Багінская, а таксама архіепіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Святаслаў.*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПЕНСІЯНЕРКІ ПРАЙГРАЛІ

Марат ГАРАВЫ

**3 лютага ў Бабруйску суддзя Марына Шалягіна не задаволіла скаргу пенсіянерак Валянціны Каваленкі і Любові Санкевіч, якія хацелі абараніць у судзе свае права на правядзенне пікета.**

Мы ўжо пісалі, што жанчыны меркавалі правесці акцыю 10 снежня, у Дзень правоў чалавека. Яны збіраліся выйсці на пікет з плакатамі: «Дэпутаты Жанна Мішур і Мікалай Плаксіцкі не абараняюць правы і інтарэсы народа, а дагаджаюць чыноўніцтву!», «Чыноўнікі і дэпутаты схаваліся ад народа за плотам адпісак».

Як падкрэсліла Валянціна Каваленка, яна з Любоўю Санкевіч зноў вымушаныя былі сысці з залы судовых пасяджэнняў, бо суддзя Марына Шалягіна ўжо другі раз запар не дапусціла ў працэс прадстаўніка заяўнікаў, нягледзячы на тое, што суду былі перададзеныя натарыяльна засведчаныя даверанасці.

Разам з тым, у выніку знаёмства жанчын з пратаколам папярэдняга судовага пасяджэння ад 27 студзеня стала вядома, што ўдзельнік працэсу — начальнік упраўлення ідэалагічнай работы, культуры, спорту і па справах моладзі Бабруйскага гарвыканкаму Мікалай Балюк абгрунтаваў адмову мясцовых уладаў на правядзенне пікетавання шэрагам меркаванняў і прадказанняў.

Напрыклад, сваю адмову прадстаўнік гарвыканкаму матываваў тым, што 10 студзеня ў Бабруйску была самая нізкая тэмпература ў краіне — мінус 26,5 градуса па Цэльсію (на самай справе, 10 студзеня ў Бабруйску была зафіксавана тэмпература толькі мінус 9 градусаў), заяўнікі маглі пайсці пагрэцца ў суседні будынак, сабраць вакол сябе вялікую колькасць людзей. Нягледзячы на тое, што пенсіянеркі ў сваіх заявах на пікетаванне пазначылі гады свайго нараджэння (1956 і 1951), Балюк сцвярджаў, што чыноўнікі не вызначылі дакладны ўзрост жанчын і сумняваліся, ці з'яўляюцца Валянціна Каваленка і Любоў Санкевіч паўналетнімі.

СУД

# ГРАМАДСКАСЦЬ СУПРАЦЬ МІНІСТЭРСТВА

Марат ГАРАВЫ

**4 лютага суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Алена Семак распачала разгляд скаргі сябры Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (БДТАПГіК) Дзяніса Турчаняка на дзеянні Міністэрства культуры.**

Заяўнік заклікаў суд адмяніць станоўчае заключэнне Мінкульта наконт праекту ўзвядзення аўтамабільна-пешаходнага моста праз роў Кобрынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці і адклікаць дазвол Міністэрства культуры на распрацоўку гэтага праекту.

Па меркаванні Турчаняка, будаўніцтва моста з'яўляецца незаконным, паколькі праект яго ўзвядзення не прайшоў грамадскае абмеркаванне і не быў ухвалены Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай радай па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны. Заяўнік звярнуў увагу на забарону новага будаўніцтва на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці, якая з'яўляецца помнікам гісторыі міжнароднага значэння.

У сваю чаргу намеснік начальніка ўпраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкульта Аксана Сматрэнка адзначыла, што пытанне аб будаўніцтве моста праз роў Кобрынскага ўмацавання двойчы разглядалася на пасяджэннях рады падчас абмеркавання канцэпцыі "Гісторыка-культурны цэнтр «Брэст». Акрамя таго, Кобрынскае ўмацаванне з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю першай катэгорыі, а ягоныя складнікі, у тым ліку і роў, не маюць аніякай катэгорыі. Узвядзенне моста, якое можна разглядаць не як новае будаўніцтва, а як рэканструкцыю ці прыстасаванне, матывавана адпаведнымі даследаваннямі.

Антон Астаповіч звярнуў увагу на тое, што вызначыць дакладнае месца размяшчэння гістарычнага моста праз роў Кобрынскага ўмацавання можна толькі на падставе гісторыка-архітэктурнага апорнага плану гэтага помніка абарончага дойлідства, які да гэтага часу так і не зроблены.

Па факту пашкоджання гісторыка-культурнай каштоўнасці па заяве грамадскага аб'яднання Брэсцкім міжраённым аддзелам Следчага камітэту ўзбуджана крымінальная справа, падкрэсліў Антон Астаповіч. Па яго словах, гэта першая спроба даказаць праз судовыя органы, што пашкоджанні ці руйнаванні помнікаў часцяком адбываюцца па ўзгадненні Міністэрства культуры.

На думку Дзяніса Турчаняка, суд застаўся адзінай пляцоўкай у краіне, дзе грамадскасць можа весці цывілізаваны дыялог з прадстаўнікамі ўлады. Ён расцэньвае судовы працэс як прышчэпку, што павінна прымусіць чыноўнікаў думаць пра адказнасць за адпаведнасць заканадаўству прынятых імі рашэнняў.

ІНДЭКС ЦЭНЗУРЫ

# ПЯЦЬ ГАДОЎ У ЗАКОНЕ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускаму закону аб СМІ 8 лютага споўнілася пяць гадоў. Журналісцкая супольнасць вырашыла паглядзець, як ён працуе.**

Беларуская асацыяцыя журналістаў сумесна з міжнароднай арганізацыяй «Індэкс цэнзуры» правяла маніторынг сітуацыі са свабодай слова ў Беларусі.

Як адзначыў прадстаўнік «Індэкса цэнзуры» Андрэй Аляксандраў, перад прыняццем новага закона ў Беларусі была місія некалькіх міжнародных арганізацый, якія займаюцца праблемамі свабоды слова. «Тады быў падрыхтаваны даклад, у якім былі адпаведныя рэкамендацыі беларускім уладам, што трэба зрабіць, каб прывесці сітуацыю са свабодай СМІ ў Беларусі ў нармальныя межы. Я вымушаны адзначыць, што сёлета ў новым дакладзе рэкамендацыі амаль тыя ж», — сказаў Аляксандраў.

Паводле яго, у нашых журналістаў тры асноўныя праблемы. Першая — рэпрэсіўнае заканадаўства, якое не дазваляе развівацца медыярынку ў Беларусі. Гэта звязана са складанай сістэмай рэгістрацыі СМІ. Другая — гэта эканамічны ўціск на незалежныя СМІ. У прыватнасці, 11 незалежных газетаў, уключаючы «Новы Час», не могуць распаўсюджвацца па падпісцы і прадавацца ў шапіках «Белсаюздруку». Трэцяя — фізічны ціск на журналістаў. Паводле падлікаў БАЖ, за апошнія тры гады было 265 фактаў, калі супрацоўнікі міліцыі ўмешваліся ў працу журналістаў, нават ужываючы сілу.

Намеснік старшыні БАЖ, юрыст Андрэй Бастунец адзначыў, што, можа, заканадаўства не было б такім кепскім, каб яно яшчэ не абцяжаралася практыкай яго прымянення. Прыкладам, што тычыцца рэгістрацыі: у Законе аб СМІ былі нават нейкія палёгкі — зараз не трэба ўзгадняць размяшчэнне рэдакцыі з мясцовымі выканаўчымі органамі. Але ў рэгістрацыйных дакументах, якія зацверджаныя пастановамі Мініфармацыі, поле для рэгістрацыі істотна звужана. Менавіта гэтымі пастановамі ўводзіцца абавязковае размяшчэнне рэдакцыі ў офісным памяшканні, альбо патрабаванне да рэдактара выдання мець абавязковы стаж кіраўніка СМІ не менш як 5 гадоў. Як у анекдоце: «Прэзідэнтам краіны можа быць чалавек, які мае як мінімум пяцігадовы стаж працы прэзідэнтам краіны».

Паводле Аляксандрава, аналітычны даклад і рэкамендацыі па паляпшэнні сітуацыі са свабодай слова будуць накіраваныя ў Міністэрства інфармацыі і ў профільную камісію Палаты прадстаўнікоў. Але на вялікі вынік Аляксандраў не спадзяецца. «Мы неаднаразова дасылалі прапановы, каб хаця б сустрэцца і абмеркаваць сітуацыю. Але выклікаць уладу на дыялог не ўдаецца», — канстатаваў Аляксандраў.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# АПОШНЯЕ КІТАЙСКАЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Меркаванага разносу ўраду не адбылося. Аляксандр Лукашэнка ў нас — з аднаго боку, суворы, але з іншага — мяккі і пухнаты кіраўнік. У чарговы раз ён папярэдзіў урад пра невыкананне сваіх абяцанняў і ў чарговы раз адклаў рашэнне па ім на нявызначаны тэрмін.**



У мінулым годзе Аляксандр Рыгоравіч неаднаразова папярэджваў урад пра тое, што склады трэба разгрузіць. Ён пра гэта казаў у красавіку, у маі была пастаўленая задача разгрузіць склады да ліпеня, у чэрвені — да верасня, у кастрычніку — да 1 студзеня 2014 года. Прычым, у кастрычніку Лукашэнка казаў, што хлусня па разгрузцы складоў, «як гэта выглядае сёння ў нас — вывезлі ў Літву, Расію, яшчэ кудысьці, грошай не атрымалі, а склалі там у дылераў на складах трактары, аўтамабілі... Скажу публічна, гэта абернецца камусьці камерай».

Будзем шчырымі — урад не зрабіў амаль анічога для разгрузкі складоў за ўвесь год. У мінулым годзе запасы гатовай прадукцыі на складах на чэрвень дасягалі 82,4% ад сярэднямесячнай вытворчасці. На 1 студзеня 2014 года гэтая лічба знізілася не вельмі істотна. Аб'ём складскіх запасаў прадукцыі ў прамысловасці складаў 70,2% у адносінах да месячнага аб'ёму вытворчасці. Згодна ж з заданнем па скарачэнні запасаў гатовай прадукцыі ў 2013 годзе, якое ўрад зацвердзіў у чэрвені мінулага года, складскія запасы да пачатку 2014-га павінны былі знізіцца да 60%.

Заданне па разгрузцы складоў не выканалі арганізацыі Мінпрама, дзе на 1 студзеня складскія запасы складалі 138,2 % да месячнага аб'ёму вытворчасці. Не выканалі заданне прадпрыемствы Мінбудархітэктуры, «Беллегпрама», «Беллеспапераапрама», «Белнафтахіма», «Белдзяржхарчпрама» і гэтак далей.

Карацей, поўны швах. Тым не менш, наш мяккасардэчны правадыр пакінуў урад на месцы, нягледзячы на тое, што абяцаў «прыняць рашэнне» па заваршэнні абмеркавання. Толькі прэм'еру Міхаілу Мясніковічу было нагадана, што ён будзе адказваць за ўсё па выніках першага квартала.

Хіба Аляксандр Лукашэнка не разумее, што гэтая эканамічная мадэль не працуе? Усё разумее, і бачыць, як эканоміка каціцца ў багну. Але іншага ўрада ў яго папросту няма, і ён сам гэта прызнае. Таму ён хутчэй сам патоне з эканомікай і ўрадам, але «не саскочыць». «Я не спрабую саскочыць і сесці ў другую лодку. Мы ўсе ў адной лодцы тут сядзім. І я не магу дапусціць, каб у краіне пайшлі нейкія катаклізмы. У нас не можа быць ніякіх катаклізмаў,

> «Я не спрабую саскочыць і сесці ў другую лодку. Мы ўсе ў адной лодцы тут сядзім. І я не магу дапусціць, каб у краіне пайшлі катаклізмы. У нас не можа быць ніякіх катаклізмаў», — заявіў Лукашэнка

акрамя як па адной прычыне — стан эканомікі, у дадзеным выпадку — прамысловасці. Я вам даю поўныя правы, каб гэтую сітуацыю змяніць. Аж да кадраў. Рабіце ўсё, што вы лічыце патрэбным, каб мне потым не сказалі, што ў вас не хапала нейкіх паўнамоцтваў. Майце на ўвазе, прабачэння ў гэтай справе не будзе», — сказаў беларускі кіраўнік.

Што можна параіць у гэтай сітуацыі? Выратаванне простае, як у адэскім бардэлі: трэба не ложкі рухаць з месца на месца, а дзевачак мяняць. Але, зноў жа, іншых «дзевачак», акрамя Мясніковіча і кампаніі ў Аляксандра Рыгоравіча няма. Чымсьці гэта нагадвае сітуацыю ва Украіне, калі Януковіч прапанаваў апазіцыі ўзначаліць урад, а тыя адмовіліся, бо не хочуць на сябе браць адказнасць за правалы мінулага ўрада. Маўляў, уліплі самі ведаеце куды, самі і вылазьце, а нам пэцкацца не варта.

З іншага боку, «неадстаўка» ўрада сведчыць: ёсць яшчэ порах у парахаўніцах! Не ўсё так дрэнна ў эканоміцы, каб немагчыма было б паспрабаваць нешта вырашыць. І ёсць яшчэ магчымасці неяк «разруліць сітуэйвіну».

Пра гэта сведчыць і сітуацыя на месцах. Напрыклад, у Магілёве нейкая пакуль не названая «службовая асоба гарвыканкама» мала таго, што працавала ў выканкаме, але яшчэ і нібыта падпрацоўвала! І кім падпрацоўвала? Таксавала ўначы? Вартаўніком у родным гарвыканкаме? Грузчыкам у суседняй краме? Не!

Пракуратурай Магілёўскай вобласці ўстаноўлена, што ён на працягу чатырох навучальных гадоў, у 2010–2013 гадах, афармляўся ў школу на працу па сумяшчальніцтве настаўнікам факультатыўных заняткаў на ўмовах тэрміновай працоўнай дамовы, пры гэтым фактычна такія заняткі з навучэнцамі не праводзіў. У школе афармлялася фіктыўная службовая дакументацыя, якая з'явілася падставай для налічэння яму заработнай платы і ажыццяўлення абавязковых адлічэнняў у бюджэт на агульную суму каля 22 мільёнаў рублёў.

Ці так у нас у краіне ўсё кепска, калі чыноўнік вертыкалі пакваліўся на заробак настаўніка! Прычым, настаўніка «факультатыўных заняткаў»! Калі падлічыць колькасць месяцаў за чатыры гады і матэрыяльны ўрон у 22 мільёны, атрымліваецца, што гэты махляр спакусіўся прыкладна на 500 тысяч у месяц.

Але ж сам факт! Хто потым скажа, што нашы настаўнікі кепска жывуць, калі ім зайздросціць нават вертыкальшчыкі!

Таму можна расслабіцца і займацца глупствам, як у Слоніме. Там трое маладзёнаў вырашылі пакатацца з горкі на санках. Адным ім катацца было сумна, і яны стварылі групу ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте», дзе і запрашалі ўсіх жадаючых гараджан пакатацца з горкі разам з імі. Але ці то час быў абраны няўдала, ці то халодна было, ці то мясцовыя жыхары не падзялілі энтузіязму маладых сланімчан, але на горцы было ўсяго тры чалавекі. Затое да месца катання нечакана прыехала міліцыя. Усё, што адбывалася, яны нейкі час здымалі на відэа, а потым забралі ўсіх трох разам з санкамі ў Слонімскі РАУС. І там на маладзёнаў склалі пратакол за спробу арганізацыі несанкцыянаванага масавага мерапрыемства.

Праўда, супрацоўнікі міліцыі самі паржалі з сітуацыі, але, тым не менш, заявілі, што абавязаныя правесці праверку наконт таго, ці ёсць у дзеяннях маладых людзей склад адміністрацыйнага правапарушэння. Удзельнікі катанняў таксама паставіліся да сітуацыі з гумарам. Праўда, на наступны раз, па парадзе міліцыянтаў, яны маюць намер падаць у мясцовы райвыканкам заяўку на правядзенне катанняў на санках.

Так што, калі вы збіраецеся катацца на санках, лепш папярэдзіць пра гэта органы выканаўчай улады. А лепш кінуць гэта глупства і пайсці склады разгружаць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ




### ДАР'Я ДОМРАЧАВА

Прыма беларускага біятлону Дар'я Домрачава адмовілася несці сцяг краіны на адкрыцці Алімпійскіх гульняў у Сочы. Пра гэта лідар жаночай зборнай па біятлоне распавяла ў эфіры тэлеканала «Расія 2».

«Так, сцяг на адкрыцці несці прапаноўвалі. Натуральна, гэта гонар велізарны для мяне. Але мы з нашым трэнерскім штабам вымушаны былі адмовіцца ад удзелу ў гэтым мерапрыемстве. Яшчэ да паступлення прапановы несці сцяг Беларусі на адкрыцці мы не планавалі прымаць удзел у мерапрыемстве. Таму што ўжо на наступны дзень у нас афіцыйная трэніроўка, а літаральна праз дзень — гонка», — патлумачыла Домрачава.

4 лютага стала вядома імя беларускага сцяганосца на XXII зімовых Алімпійскіх гульнях. Ім стане першы і адзіны алімпійскі чэмпіён у краіне ў зімовых відах спорту фрыстайліст Аляксей Грышын. Такое рашэнне прыняў асабіста Аляксандр Лукашэнка.

Падаецца, не толькі з-за афіцыйнай трэніроўкі Домрачава адмовілася несці сцяг. Спартовыя аглядальнікі падкрэсліваюць, што несці «чырвоназялёны» на адкрыцці Алімпіяды — кепская прыкмета. У суверэннай гісторыі Беларусі толькі адзін спартовец выступіў удала на Гульнях, дзе выконваў пачэсны абавязак сцяганосца падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця Алімпіяды. Гэта тэнісіст Максім Мірны, які стаў алімпійскім чэмпіёнам у пары з Вікторыяй Азаранка ў Лондане–2012. Усе астатнія сцяганосцы Алімпіяду «правальвалі».

### АЛЯКСАНДР ЯКАБСОН



Падаецца, сучасная Беларусь — не алігархічная Расія. Але і ў нашай краіне банкірам трэба быць сціплымі, нагадаў старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон.

Ён адначасова выказаў занепакоенасць пазіцыяй камерцыйных банкаў. Прычына ў тым, што яны пачынаюць фінансаваць праекты, згаджаючыся з прадстаўленымі бізнэс-планамі, падпісваюць крэдытныя дамовы, а пры з'яўленні першых жа цяжкасцяў спыняюць фінансаванне. На думку Якабсона, гэта прыводзіць да зацягвання тэрмінаў рэалізацыі праектаў і замарожвання ўкладзеных сродкаў.

«Акрамя таго, празмерна высокі кошт крэдытаў — больш за 40% — на фоне адносна сціплай стаўкі рэфінансавання (23,5%) неспрыяльна адбіваецца на фінансавым стане прадпрыемстваў. І такая сітуацыя, падобна, цалкам задавальняе банкі, бо іх прыбытак за 2013 год павялічыўся ў 2,5 разы пры росце выдадзеных крэдытаў усяго толькі на 23%», — канстатаваў Якабсон.

Ён лічыць, што ў гэтай сітуацыі «банкам трэба быць больш сціплымі і вызначыць меры па скарачэнні сваіх расходаў, у тым ліку на заработную плату, і аптымізацыі прыбытку, каб зрабіць таннейшым крэдыты».

Ужо да каго, а да старшыні галоўнага кантралюючага органа краіны банкіры павінны прыслухацца. Бо інакш «нясціплыя» банкі зробяць сціплымі ў прымусовым парадку.

### СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ



Урэшце, дачакаліся. Нашая прэтэндэнтка на Нобеля ў галіне літаратуры 2013 года прадставіць свой «нобелеўскі» твор — «Час сэканд-хэнд» — на радзіме ў Мінску.

У суботу, 8 лютага, на Мінскім міжнародным кніжным кірмашы адбудзецца сустрэча са Святланай Алексіевіч і прэзентацыя яе новай кнігі «Час сэканд-хэнд». Прычым гэта будзе беларускі пераклад кнігі, над якім працавалі Валер Стралко і Ціхан Чарнякевіч.

Твор Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд» — апошняя кніга, кульмінацыйны пункт створанай Алексіевіч грандыёзнай эпапеі савецкага жыцця: мастацка-дакументальнага цыкла «Галасы Утопіі». Выдадзеная мінулай восенню на рускай мове, яна ўжо была перакладзеная на многія еўрапейскія мовы і атрымала некалькі прэстыжных літаратурных прэмій.

У мінулым годзе кніга, поруч з іншымі творамі пісьменніцы, намінавалася на Нобелеўскую прэмію і была сярод галоўных фаварытаў гэтай прэстыжнай ўзнагароды.

Прэзентацыя кнігі пройдзе каля стэнда «Белкнігі», з 12 да 14 гадзін. Вядучы — генеральны дырэктар выдавецтва «Время» Барыс Пастэрнак. Нагадаем, што Святлана Алексіевіч рэдка бывае ў Мінску, з пачатку 2000-х гадоў яна жыве ў Італіі, Францыі і Германіі.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЖОЎТАЯ СКРЫНЯ НА ДЗВЯРАХ ПАЛАЦА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

*Сяргей НІКАЛЮК*



**Чым больш жорсткая ўладная «вертыкаль», тым вышэйшы ўзровень залежнасці ўладара ад яго найбліжэйшага асяроддзя.**

21 студзеня адзіны палітык (АП) сустракаўся з кіраўнікамі найбуйнейшых беларускіх СМІ. На жаль, поўная стэнаграма размовы *«в форме вопросов и ответов»*, так і не была апублікаваная. Таму я вымушаны арыентавацца на інфармацыйны «абгрызак», змешчаны на сайце president.gov.by.

Пра што казаў АП на працягу пяці гадзін? Перш за ўсё, пра адсутнасць у Беларусі сучаснай дзяржавы. Абмяжуюся трыма цытатамі: *«Мной еще в конце прошлой пятилетки было принято решение перейти на международные стандарты статистики». «Я сказал, что нет, мы людям обещали. Мы должны 500 долларов восстановить. Вот отсюда и мое было давление, что мы должны 500 долларов этих народу отдать». «И я сделал все для того, чтобы не было девальвации национальной валюты. Это было мое решение, и я добился его исполнения».*

Вось такая ў нас дзяржава. Яна неаддзельная ад кіраўніка. Без яго мы самастойна і кроку не зробім. Па-першае, таму што не можам. Па-другое, таму што не маем права.

У канцы 2010 года кожнаму сярэднестатыстычнаму беларусу далі па 500 долараў. АП сказаў — АП зрабіў. У 2011 годзе не заробленыя долары адгукнуліся трохразовай дэвальвацыяй. А чаму? А таму, што АП не сказаў, АП не зрабіў. Папрасіць жа яго пра гэта мы не здагадаліся. Але чыя гэта праблема?

І так ва ўсім. Чаму ў Беларусі не растуць цэны на вываз смецця? Ён стрымлівае. І ніякага папулізму ў гэтым няма, бо толькі АП валодае мастацтвам стрымлівання цэнаў на вываз смецця, *«не нарушая при этом законов экономики»*.

## Дзе расце добрая драўніна?

Ці існуе паміж «па-першае» і «па-другое» прычынна-выніковая сувязь — пытанне філасофскае. Паводле французскага палітолага Энтані дэ Ясаі: «Ператварэнню кіраваных у някіраваныя спрыяе кіраванне імі». Такі вось каламбур. Яго актуальнасць АП пацвердзіў 21 студзеня.

Звернемся да дрэваапрацоўкі. *«У нас же лес перестаивает. У нас огромное количество леса, и мы каждый год несколько миллионов кубов не успеваем переработать»*. Аднак з кабінетаў начальнікаў мільёны кубаметраў лесу, які перастаяў, не бачныя. Але гэта паўбяды. Дапусцім, за грошы падаткаплатнікаў начальнікам набудуць цэйсаўскія біноклі. Дапусцім, начальнікі з іх дапамогай навучацца адрозніваць перастаялую сасну ад неперастаялай. І што далей?

Ці змогуць яны самастойна ўсвядоміць неабходнасць мадэрнізацыі *«для того, чтобы больше увеличить объемы деревообработки с целью большей продажи»?* Адкуль яны ведаюць, *«что хорошая древесина растет до экватора, в некоторых странах пониже. До экватора, а дальше пески. Дальше если и растут деревья, из них мебель не сделаешь»?*

Перад намі праблема глабалізацыі ў яе непрыкрытай аголенасці. Лёс асобна ўзятай беларускай сасны сёння наўпрост звязаны з адсутнасцю добрай драўніны паўднёвей за экватар. Але ўсвядоміць гэту сувязь, аформіць яе ў кіроўнае слова, а затым і ў пэўную справу, у Беларусі здольны толькі адзін чалавек.

І так па ўсім фронце праблем, у тым ліку па праблеме дзяржаўнай незалежнасці: *«Беларусь будет государством — суверенным и независимым. Это единственная моя главная задача, которую я должен исполнить»*. Страшна ўявіць, што з намі можа здарыцца, калі АП адмовіцца выконваць свой абавязак ці перавядзе задачу па захаванні суверэнітэту з шэрагу галоўных у другасныя.

## Дзве прапановы

Замкнуўшы на сабе рашэнне ўсіх пытанняў, АП апынуўся ў поўнай залежнасці ад крыніц інфармацыі. Гэта няновая праблема. Звернемся да класіка нямецкай паліталогіі Карла Шміта: «Нават самы абсалютны манарх вымушаны абапірацца на паведамленні і данясенні і залежыць ад сваіх дарадцаў. Незлічонае мноства звестак і фактаў, прапаноў і здагадак навальваецца на яго дзень за днём, гадзіна за гадзінай. З гэтага бясконцага бушуючага мора праўды і хлусні, сапраўднага і магчымага нават самы разумны і магутны чалавек можа набраць у лепшым выпадку толькі некалькі кропель».

У эканоміцы Беларусі занятыя 4,5 мільёна чалавек. Гэта іх высілкамі рэалізуюцца планы, якія АП прымае на падставе аналізу некалькіх кропель інфармацыі. Дапусцім, з кожнай кроплі інфармацыі ён здольны выжаць максімум. Але дзе гарантыя, што ён выбірае патрэбныя кроплі?

Няма такой гарантыі. А вось гарантыі таго, што выбар патрэбных кропель АП даводзіцца рабіць з папярэдне адфільтраванага інфармацыйнага мора, існуюць. «Найперш, — падкрэслівае Шміт, — тут можна бачыць унутраную дыялектыку чалавечай улады. Хто дакладае ўладару ці паведамляе яму інфармацыю, той ужо атрымлівае сваю частку ўлады, і не мае значэння, ці ён міністр, упаўнаважаны візаваць дакументы, ці хтосьці, хто ўмее ненаўпрост схіляць да сябе слых уладара».




Менавіта непазбежнасцю фільтравання інфармацыйнага мора тлумачыцца паліталагічны парадокс: чым больш жорсткая ўладная «вертыкаль», тым вышэйшы ўзровень залежнасці ўладара ад яго найбліжэйшага асяроддзя. Так усякая прамая ўлада (па Шміту) падпадае непрамым уплывам.

З гісторыі вядома мноства спробаў уладароў вырашыць паліталагічны парадокс за кошт нестандартных спосабаў атрымання інфармацыі. Так, каліф Гарун аль Рашыд у канцы свайго кіравання пераапранаўся ў звычайнае адзенне і наведваў па начах харчэўні Багдада. З той жа мэтай імператар Павел I павесіў на дзвярах свайго палаца ў Пецярбургу жоўтую скрыню для скаргаў, якую адкрываў уласнаручна. Але ад інавацыі яе аўтару неўзабаве давялося адмовіцца, бо кемлівыя грамадзяне пачалі актыўна выкарыстоўваць скрыню для ілжывых даносаў, пасквіляў і карыкатур на самога імператара.

Аднак вернемся ў сённяшні дзень. *«Я попросил специалистов, ну так называемых независимых, молодых толковых людей. Я говорю, ребята, просчитайте, это же несложно. Я могу сам это сделать, но это много времени займет, ну вы просчитайте, что будет, если мы девальвируем национальную валюту на пять, на десять, на пятнадцать процентов сразу. Они мне в один голос заявили, что пользы никакой не будет. Государство в итоге, народ и предприятия сядут в яму. Это подтвердило мои мысли»*.

Імператар Павел I і каліф Гарун аль Рашыд адпачываюць. Кіраўнік сучаснай еўрапейскай дзяржавы для прыняцця, мабыць, аднаго з найважнейшых макраэканамічных рашэнняў вымушаны кансультавацца з так званымі «незалежнымі», маладымі разумнымі людзьмі. А чаму не са спецыялістамі Міністэрства эканомікі? Між іншым, пры міністэрстве існуе Навукова-даследчы эканамічны інстытут (НДЭІ). Інтэрнэт падказвае, што гэта далёка не адзіная ў Беларусі навуковая структура эканамічнага профілю.

Нам пашанцавала. У АП — дзве вышэйшыя адукацыі, адна з якіх — эканамічная. Калі б *«так называемые»* адмовілі, дык ён і сам здолеў бы зрабіць неабходныя разлікі. Зласліўцы могуць не чакаць чарговай дэвальвацыі. Але што рабіць з тарыфамі на вываз смецця?

Неаднаразовыя спробы АП атрымаць ад урада рэальныя выдаткі на яго вываз так ні да чаго і не прывялі. Пра прычыны гэтага я распавёў вышэй, таму абмяжуюся кароткай цытатай: *«Дайте мне это. Ну да, представят назавтра. Кто представит? Министерство жилищно-коммунального хозяйства. А какую оно информацию представит? Оно само в этом сидит, руководит этой отраслью»*.

Ну як гэтаму супрацьстаяць? Асабіста ў мяне ёсць дзве прапановы. Па-першае, на дзвярах Палаца Незалежнасці варта павесіць жоўтую скрыню. Па-другое, можна скарыстацца напрацоўкамі каліфа Гаруна аль Рашыда. Балазе, начных забаўляльных установаў у Мінску адкрыта мноства.

## Крыху статыстыкі

Дзяржавы як абстрактныя арганізацыі, якія валодаюць уласнай юрыдычнай асобай, адрознай ад асобы кіраўніка, пачалі актыўна фармавацца ў Еўропе пасля падпісання Вестфальскага міру (1648 г.). Для сярэднявечнага інтэлектуала гісторыя любых супольнасцяў успрымалася як жыццяпіс асобаў, якія імі кіравалі. Разважаць у катэгорыях інстытутаў і безасабовых сіл ён быў не здольны.

Пры такім поглядзе на свет не існавала паняцця «ўрад». Былі толькі людзі, якія служылі каралю ў той ці іншай якасці. Не існавала таксама грамадзянскай супольнасці, а былі выключна падданыя, важныя персоны і маленькія людзі, з якімі неабходна было абыходзіцца ў адпаведнасці з іх статусам. Не існавала і замежных дзяржаваў, а толькі кіраўнікі, якія належалі да іншых дынастый.

У Беларусі, нягледзячы на наяўнасць поўнага камплекту нібы сучасных інстытутаў, асоба кіраўніка так і не адмежаваная ад дзяржавы. Таму пераход на міжнародныя стандарты статыстыкі ў нас ажыццяўляецца па рашэнні АП. За ім застаецца і апошняе слова і пры зацвярджэнні тарыфаў на вываз смецця.

Уменне АП выбіраць і аналізаваць кроплі інфармацыі з'яўляецца галоўным фактарам эфектыўнасці беларускай эканомікі. За прыкладам далёка хадзіць не трэба: *«Весь мир модернизируется, а меня критикуют за то, что не вовремя поставил задачу модернизации. Как же не вовремя? Мы давно этим занимаемся. Мы в сельское хозяйство вгрохали около 50 млрд. долларов на модернизацию»*.

Крыху статыстыкі. За студзень–лістапад 2013 года чысты прыбытак арганізацый сельскай гаспадаркі скараціўся на 37,7%. За гэты ж перыяд удзельная вага стратных арганізацый (без дзяржпадтрымкі) сярод агульнай колькасці арганізацый павялічылася ў 1,8 разу (з 30,4% да 54,1%).

Такі вынік *«вгрохивания»* бюджэтных мільярдаў у мадэрнізацыю сельскай гаспадаркі. Але сельская гаспадарка — далёка не адзіная галіна, адказнасць за мадэрнізацыю якой узяла на сябе беларуская дзяржава.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Алег Волчак: БЫЦЬ ПРАВААБАРОНЦАМ У БЕЛАРУСІ НЕБЯСПЕЧНА



Генадзь КЕСНЕР

**Праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» летась споўнілася 15 гадоў. Гэтая структура, як і некаторыя іншыя грамадскія арганізацыі, зарэгістравана па-за межамі Беларусі. Чаму? Чым займаецца гэтая арганізацыя? Хто ў яе ўваходзіць? На гэтыя ды іншыя пытанні адказвае яе кіраўнік, юрыст Алег Волчак.**

***— Як з'явілася ідэя стварыць «Прававую дапамогу насельніцтву»?***

— Калі я яшчэ працаваў следчым у пракуратуры Фрунзенскага раёна Мінска, я пазнаёміўся з вядомым палітыкам Мікалаем Статкевічам. Ён запрасіў мяне прыйсці ў яго сацыял-дэмакратычную партыю, прапанаваў стварыць праваабарончую арганізацыю. Я тады ўвогуле не разумеў, што гэта такое. А для пачатку Статкевіч звёў мяне з іншымі юрыстамі, прапанаваў з'ездзіць у Германію і Літву. Так і атрымалася, што, яшчэ працуючы ў пракуратуры, я, нікому не кажучы, з'ездзіў у гэтыя дзве краіны, дзе сустракаўся з пракурорамі, суддзямі. Гэтыя паездкі сталі для мяне сапраўдным пераломам у свядомасці. Прычым настолькі моцным, што я ўжо праз паўгода вырашыў звольніцца, бо тая сістэма мне пачала перашкаджаць.

Знайшліся яшчэ калегі, якія былі таксама ідэалістамі, якія бачылі ўсе хібы гэтай сістэмы. Дарэчы, палова з нас прайшла праз Афганістан. Пасля ўсіх належных працэдур у верасні 1998 года мы атрымалі пасведчанне аб рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Прававая дапамога насельніцтву», выдадзенае ўпраўленнем юстыцыі Мінгарвыканкама.

Нам падавалася, што ўлада нас падтрымае, бо мы ж дапамагаем людзям, тым больш, што робім гэта без карысці для сябе. У той час у кожнага з нас быў асабісты заробак. Але высветлілася, што, як толькі з'яўляецца новая праваабарончая арганізацыя, нават няхай яна вырашае самыя паўсядзённыя пытанні (жыллёвыя ці вулічныя, якія абсалютна не тычацца палітыкі і не закранаюць уладу), то і гэтыя арганізацыі зусім не патрэбныя той самай уладзе. Асабліва калі такія структуры займаюцца навучаннем грамадзянаў. Уладзе не патрэбна, каб грамадзяне маглі пісьменна складаць скаргі, самі абараняць свае правы. Любой уладзе прасцей кіраваць замбаванымі людзьмі, якія мала чаго разумеюць.

Недзе праз год пасля ўзнікнення, мы пераканаліся, што ўлада заўжды будзе ўспрымаць нас як апанентаў. Хоць сярод нас ёсць былыя супрацоўнікі праваахоўных органаў, пракуратуры, адвакаты, нават былыя аналітыкі з КДБ.

***— Каму вы збіраліся аказваць дапамогу?***

— Мы не ставілі нейкіх абмежаванняў, напрыклад, падтрымліваць грамадзянаў толькі па прычыне іх палітычнага пераследу. Мы займаліся справамі парушэнняў спадчынных, грамадзянскіх, адміністрацыйных правоў. Адзінае, мы адмаўляліся браць справы, калі бачылі, што чалавек заможны і можа дазволіць сабе наняць адваката за грошы. Або бачылі, што чалавек быў замешаны ў карупцыі.

У нас былі выпадкі, калі да нас прыходзілі былыя чыноўнікі, але мы і ў гэтым выпадку адмаўлялі, бо бачылі, што ў іх справах насамрэч былі нейкія махінацыі. Нашы кліенты — пераважна маламаёмаснае насельніцтва: пенсіянеры, шматдзетныя сем'і, маці, якія адны выхоўваюць дзяцей, студэнты, беспрацоўныя. Мы ж вядзем статыстыку. Мы абаранялі і працоўныя правы.

***— Калі ўлады далі зразумець, што ваша арганізацыя ім зусім не патрэбная?***

— Калі мы пачалі займацца справамі сем'яў загінулых і пацярпелых падчас трагедыі на Нямізе (адбылася ўвечары 30 мая 1999 года — заўвага Г. К.). Нас запрасілі прадстаўнікі Праваабарончага цэнтра «Вясна», патлумачыўшы, што мы займаемся справамі па грамадзянскім праве. Так мы заняліся грамадзянскімі працэсамі, мы дапамаглі бацькам весці маніторынг крымінальнай справы і падалі грамадзянскія зыскі аб кампенсацыі.

Улада была ў шоку. Мы за кароткі час — цягам усяго толькі месяца — арганізавалі людзей, гэта фактычна быў першы зыск, заяўлены дзяржаве, калі за смерць дзіцяці дзяржава павінна была выплаціць сям'і 55 тысяч долараў. Да таго ж мы выступілі з заявою, што не дождж вінаваты ў той трагедыі, але халатнасць і бяздзеянне службовых асобаў і супрацоўнікаў міліцыі.

Апроч таго, прыспелі і справы зніклых. Напрыклад, быў скрадзены генерал Юры Захаранка (экс-міністр унутраных справаў Беларусі — заўвага Г. К.), я ўзначаліў незалежную камісію па вывучэнні абставінаў знікнення, а «Прававая дапамога насельніцтву» пачала весці маніторынг справаў.

Але не толькі гэта. У нас былі і шэраг справаў па абароне правоў грамадзянаў перад буйнымі наймальнікамі, справаў грамадзянаў да адміністрацый раёнаў. Дарэчы, мы былі адзінай праваабарончай структурай, якая мела ліцэнзію на аказанне платных юрыдычных паслугаў. Дык вось, праз пэўны час нас пазбавілі гэтай ліцэнзіі, потым некалькі разоў мы былі змушаныя мяняць офісы, былі іншыя перашкоды. Відаць, улады пачалі лічыць нас сваімі грознымі апанентамі, вось адтуль і пачаліся ўсе нашы непрыемнасці.

***— Калі стала зразумелым, што трэба шукаць рэгістрацыю па-за межамі Беларусі? І чаму быў абраны менавіта Кіеў?***

— 2003 год быў для нас вельмі складаны. Мы ведалі, што ўлады будуць ладзіць правакацыі, каб паказаць, што за свае паслугі мы бярэм з людзей грошы. У нас былі правакатары, але нашы юрысты вельмі граматныя людзі, і мы адсякалі ўсе спробы такіх учынкаў. Падчас майго ад'езду з офіса ўлады не змаглі прыдумаць нічога лепшага, як тое, што сама супрацоўніца з выканкама, якая была шматдзетнай маці, прыйшла да нас на кансультацыю і паспрабавала нашаму юрысту ўсунуць грошы. Ёй адкрытым тэкстам было сказана, што грошы ніхто не возьме, але ў той момант уляцела група з міністэрства юстыцыі на чале з Аляксандрам Харытонам — вядомым ліквідатарам няўрадавых арганізацыяў.

Была складзена папера, што мы ўзялі грошы, хоць нічога падобнага не было. Мы пісалі ў Мінюст, ад пракуратуры патрабавалі завесці крымінальную справу супраць той супрацоўніцы выканкама і супраць Харытона, але нічога гэтага зроблена не было. І ў верасні 2003 года нас рашэннем Мінюста зліквідавалі.

Пяць гадоў мы працавалі негалосна, але потым я даведаўся, што нашы калегі пачалі рэгістравацца ў іншых краінах — у Польшчы, у Чэхіі, у Літве. Мне ж падалася найбольш блізкай і брацкай Украіна. Да таго ж, мне было вельмі важна захаваць брэнд «Прававая дапамога насельніцтву». Мы заўважылі: як толькі нас зліквідавалі, прайшла адвакацкая акцыя «Прававая дапамога», адбылося яшчэ некалькі падобных мерапрыемстваў з аналагічнымі назвамі. Таму было вырашана, што трэба застацца ў інфармацыйнай прасторы, каб людзі не блыталіся. Апроч таго, у Крымінальным кодэксе з'явіўся артыкул 193-1, які прадугледжвае пакаранне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. А рэгістрацыя ў Кіеве дае магчымасць працаваць не пад пагрозаю.

***— Што зараз самае цяжкае ў вашай працы?***

Самае цяжкае — гэта тое, што няма прытоку да нас новых юрыстаў. У нас галоўным чынам застаўся стары касцяк. Мы не можам прыцягнуць людзей, таму што адбіваюцца рэпрэсіі, асабліва пасля 2010 года, якія закранулі ўсе праваабарончыя арганізацыі. Ёсць граматныя, добрыя людзі, якія гатовы былі б працаваць, але ім патрэбны статус. Напрыклад, павінна недзе ляжаць працоўная кніжка, асабліва цяпер, калі ўрад намагаецца ўвесці адказнасць за лайдацтва.

Па-другое, нас, канешне, ужо ведаюць, дадатковая рэклама нам не патрэбная, але мы не можам выйсці шырэй на людзей, напрыклад, праз тэлебачанне. Раней «Прававая дапамога насельніцтву» прысутнічала ў эфіры радыёстанцыі «Сталіца», мы вялі там сваю калонку (праз год нас адтуль «папрасілі»), мы нават прабіваліся ў некаторыя праграмы на БТ і давалі каментары, але і гэта доўжылася вельмі мала. То бок, праваабаронцам бракуе інфармацыйнай прасторы.

Але мы заўважылі, што за апошнія тры гады аўтарытэт праваабаронцаў, асабліва ў рэгіёнах, вырас дзякуючы інтэрнэту, а таксама БЕЛСАТу. Павялічваецца пазнавальнасць, незнаёмыя людзі пачынаюць вітацца нават у грамадскім транспарце.

Калі не браць да ўвагі Узбекістан, дзе сітуацыя з праваабаронцамі ўвогуле катастрафічная, то, параўнальна з іншымі краінамі СНД, беларускім праваабаронцам працаваць найцяжэй. Моцны ціск адбіваецца на сем'ях, на асабістых узаемадачыненнях з сябрамі, калегамі, знаёмымі. Маральна цяжка, калі дзяржава цябе заганяе ў рэзервацыю. Але мы ўсё роўна вырываемся, знаходзім спосабы заявіць пра сябе.

***— Вы супрацоўнічаеце з іншымі праваабарончымі арганізацыямі?***

— Так, натуральна. Нас вельмі мала, і паасобку дзейнічаць было б зусім цяжка. Мы прымаем сумесныя заявы, нейкіх грунтоўных супярэчнасцей паміж намі няма, хіба што недзе па метадыках працы.

***— Якія мэты сёння перад сабой ставіць менавіта «Прававая дапамога насельніцтву»?***

— Мы цягам апошніх 7–10 гадоў займаемся пытаннямі рэфармавання МУС, судоў, мы нават рабілі свае экспертызы па гэтых пытаннях для Еўрапейскага саюза. Натуральна, асноўная задача — дапамагаць людзям, але разам з тым мы разумеем, што змена палітычнага рэжыму можа адбыцца і заўтра, і паслязаўтра, і важна, хто зможа прыцягнуць інвестыцыі. Інвестыцыі могуць быць не толькі грашовыя, але і прававыя. Мы павінны знайсці экспертаў па пенітэнцыярнай сістэме, па пракуратуры, па Інтэрполу. Вось наша арганізацыя займаецца гэтым, усталёўвае кантакты за мяжой.

За апошнія два гады, што мы працавалі ў рамках Дыялога аб мадэрнізацыі ў Беларусі па пытаннях прававой рэформы, мы ўбачылі, што частка нашых прапановаў ужо знайшла сваё адлюстраванне ў заканадаўстве. Гэта сведчыць пра тое, што ўлада вымушана прыслухоўвацца да іншых думак, ісці на некаторыя змены.

Але галоўнае для нас зараз — захаваць ідэю, захаваць людзей, а таксама прыцягнуць больш прыхільнікаў, бо нашы прыхільнікі — гэта і прыхільнікі пазітыўных зменаў у краіне. Мы будзем працягваць выдаваць наш бюлетэнь, друкаваць кнігі. У іншай краіне такой арганізацыі дзяржава, верагодна, надавала б больш увагі і падтрымлівала б, бо дзяржава не ўстане ахапіць усю прававую адукацыю грамадзянаў. Але, відаць, мы сёння дзяржаве не пасуем як партнёры. Але гэта сёння.



www.belaruspartisan.org

**Хобі Алега Волчака — кіно. Ён акцёр масавых сцэн. На здымку: Фёдар Бандарчук і Алег Волчак у фільме «Шпіёнскі раман»**

РОЗДУМ



# З МАЙДАНА З ЦЯЖКІМ СЭРЦАМ

Зміцер ГАЛКО

**Гэтым разам я вяртаўся з Кіева з цяжкім сэрцам. Трэба ведаць украінцаў, каб зразумець, як можа ўразіць тут сваёй нязвыклацю ціша ў поўным аўтобусе ці вагоне метро, прыглушаныя размовы ў кавярнях. Атмасфера ўкраінскай сталіцы нагадала мне родны Мінск у першыя тыдні пасля разгону Плошчы–2010 і масавых арыштаў.**




Мае кіеўскія знаёмыя настойліва прасілі пазбавіцца ўсялякай сімволікі на вопратцы і далі зменную куртку для знаходжання на Майдане — каб за яго перыметрам не пахнуць дымам, бо гэты пах адразу выдае майданаўца. Тых, хто палюе на людзей з пахам дыму, называюць «нюхачамі».

Перад вяртаннем дадому паклалі мне зверху ў заплечнік плюшавую цацку: «Калі спатрэбіцца, скажаш, што гасцяваў у сваякоў, вязеш падарунак малому».

Нічога падобнага не было напачатку снежня мінулага года. Зрэшты, з таго часу шмат чаго адбылося. Ад маіх знаёмых рукой падаць да Барыспальскай шашы, дзе невядомыя жорстка збілі журналістку Таццяну Чарнавол у ноч на 25 снежня. Таксама ў Барыспальскім раёне выкінулі збітым у лес грамадскага актывіста Ігара Луцэнку. Потым знайшлі труп закатаванага да смерці львавяніна Юрыя Вярбіцкага. Тут знайшоўся і Дзмітры Булатаў, адзін з лідараў АўтаМайдану, які быў выкрадзены. Жывы, але з адрэзаным вухам, дзіркамі ад цвікоў на руках… Ёсць чаго спужацца.

Яшчэ болей, чым таго, што ўжо адбылося, многія баяцца таго, што чакае краіну наперадзе.

«Ці бачылі вы твар Януковіча, калі ён згадаў забітага Юрыя Вярбіцкага? Ды каб яму язык адсох такое казаць, што ён «замерз» (паводле афіцыйнай версіі, смерць Юрыя была выклікана не атрыманымі траўмамі, ён памёр ад пераахаладжэння — аўт.)! Кажа, а самога ажно круціць ад гідлівасці, нібы ён пра казюрку якую раздаўленую гаворыць… Слухайце, такі ні перад чым не спыніцца, ён нас усіх раздавіць», — дзеліцца сваімі ўражаннямі жанчына каля бочкі з вогнішчам на Майдане.

«Або мы яго голым азадкам на вось гэтую бочку пасадзім», — змрочна адгукаецца адзін з мужчынаў.

Жорсткія прагнозы наконт будучыні ўкраінскага прэзідэнта з боку шараговых майданаўцаў — цалкам новая з'ява. Хаця пра высокую ступень нянавісці, якая адрознівае цяперашні Майдан ад Майдану–2004, я чуў яшчэ да сваёй першай паездкі ў Кіеў, у снежні мяне здзіўляла якраз лагоднасць удзельнікаў пратэсту. Тады яшчэ можна было пачуць, як прэзідэнта ласкава называюць усяго толькі «целяпнем».

Аднак і цяпер, калі надзеі на мірнае вырашэнне палітычнага канфлікту знікаць на вачах, нельга сказаць, што Майдан асьлеплены злосцю ці прагай помсты.

Шмат моцна раззлаваных хлопцаў з Львову. Не таму, што яны злаславыя па сваёй прыродзе «западэнцы» і «бандэраўцы». У Кіеве па начах невядомыя паляць машыны з львоўскімі нумарамі. Юры Вярбіцкі, як сведчыць Ігар Луцэнка, быў забіты за тое, што размаўляў па-ўкраінску і быў львавянінам. Зусім не радыкал, вучоны-сейсмолаг, альпініст, з выгляду падобны да хіпі. Магчыма, гэтае забойства было мэтанакіраваным — каб перавесці палітычны канфлікт на этнакультурныя рэйкі, прымусіць львавян помсціць.

І вось львоўскі хлопец узбуджана расказвае на Майдане, як яны, едучы вялікай кампаніяй у цягніку да Кіева, здзейснілі два акты расправы. Прымусілі нейкага міліцыянта «каяцца перад народам», паставіўшы на калені, а мужчыну са сцяжком Партыі рэгіёнаў «зжэрці гэты паскудны сцяжок».

На Майдане няма тых, хто спачувае Партыі рэгіёнаў. Стаўленне да міліцыі сяродукраінцаў было адмоўным яшчэ задоўга да пачатку пратэстаў. Тым не менш гуртoк людзей, у якім хлопец хваліўся сваімі подзвігамі, сустрэў ягоны расказ маўчаннем. Калі ж ён адышоў, нехта падсумаваў агульнае, як высветлілася, уражанне:

«Не, так рабіць няправільна. Уявіце, каб нехта ў цягніку з Данецку гэтак жа адшукаў чалавека з дзяржаўным сцягам…»

Дарэчы, дзяржаўны ўкраінскі сцяг, як ні абсурдна, апошнім часам стаў нагодай для пільнай увагі міліцыі. Людзі расказваюць, што ў грамадскіх месцах, калі ў цябе з сабой жоўта-блакітны сцяжок, міліцыянты падыходзяць і просяць яго прыбраць. Пакуль ветліва, але ўжо — настойліва.

Ці не сведчыць гэта аб тым, што цяперашняя кіроўная эліта толькі вымушана згаджаецца з існаваннем украінскай дзяржавы, у глыбіні душы падзяляючы думку расійскіх імперыялістаў пра Украіну як «штучнае ўтварэнне»?

Да якога яны ставяцца як да сваёй кармавой базы. А каб ім не заміналі насалоджвацца жыццём напоўніцу, стукаюць ілбамі заходнікаў з усходнікамі — хай губляюць сілы, цягаючы за чубы адзін аднаго.

На Майдане схільныя да такога пункту гледжання — што міжрэгіянальны канфлікт правакуецца і ўзмацняецца штучна. Таму майданаўцы намагаюцца ўсяляк пазбягаць, нават на ўзроўні гутарак каля бочак з вогнішчам, праяваў міжрэгіянальнай варожасці і канфліктаў паміж «простымі людзьмі».

З гэтай прычыны хлопец застаўся самотным у сваім куражы ад здзеку з выпадковых пасажыраў.

Я не чуў закідаў кшталту таго, які зрабіў калісьці Юрась Беленькі ў адрас рускамоўных беларусаў, што яны «страляюць у свой народ».

Хаця нацыяналістаў, у тым ліку радыкальных, там нямала. Іх дамінаванне на Майдане, пра якое часта гаворыцца, праяўляецца хіба што ў сімвалічнай прысутнасці. Прасцей кажучы, нацыяналістычныя сімвалы кідаюцца ў вочы.

Калі ж казаць пра ідэі, на Майдане дамінуе ідэя агульнаграмадскага пратэсту.

І ўсё-ткі агульнаграмадскі характар пратэсту, які бясспрэчны для таго, хто сам працягліцы быў на Майдане, губляецца за яркімі карцінкамі, асабліва з хлопцамі з «Правага сектару». Нягледзячы на тое, што нават барыкады на Грушэўскага ўмацоўваюць і трымаюць зусім не адны радыкальныя нацыяналісты. Тут дзяўбуць лёд і складаюць яго ў мяшкі ў тым ліку яшчэ ўчора цалкам апалітычныя кіяўлянкі.

«Чаго дзяўбем? Бо задзёўб ужо гэты нахабны паханат. Мы лепей тут, прабачце, ракам пастаім, чым наступную пяцігодку ці яшчэ невядома колькі так стаяць перад імі», — гаворыць жанчына ў ружовым лыжным касцюме.

Бяда ў тым, што з агульнаграмадскага складніку пратэсту карцінкі і сенсацыі не зробіш, у адрозненне ад баявітых хлопцаў з нацыяналістычнай сімволікай.

Гэтая другая карцінка ў значнай ступені шкодзіць пашырэнню пратэсту, а пашырэнне пратэсту азначала б меншую крою.

У цяперашняй сітуацыі варта было б адмовіцца ад выкарыстання партыйнай сімволікі, як было на самым пачатку Майдану. Бо зусім не той час, калі можна думаць пра ўласныя палітычныя балы і дывідэнды. Але ж хто наважыцца зараз высунуць такое патрабаванне…

Я пачаў артыкул з таго, што вяртаўся дадому з цяжкім сэрцам. Гэта не толькі праз поўнае падабенства «мірнай» часткі Кіева да беларускай сталіцы ўзору палітычнай зімы 2010 года, не толькі праз парасткі страху ў грамадстве.

Мяне гнятуць два пытанні. Першае: ёсць у рэвалюцыі пачатак… дзе ў рэвалюцыі канец? Другое: пратэстоўцы ўжо заплацілі вялізны кошт, ахвяраваўшы сваім здароўем і жыццямі… за што яны яго заплацілі?

Не ведаю, якая перспектыва жахае болей — Януковіч, які застанецца пры ўладзе, ці нікчэмнасць «перамогі», пасля якой пачнецца дзяльба партфеляў, рэсурсаў і траскучая балбатня замест кардынальных рэформаў.

Кошт заплачаны вялізны. І апраўданы ён можа быць толькі ў адным выпадку — поўнай перазагрузкі краіны, ліквідацыі карупцыйна-алігархічнага рэжыму. Пра гэта гаворыць увесь Майдан усярэдзіне народны тоўшчы.

Ці чуюць яго тыя, хто бярэ на сябе адказнасць за ўвасабленне патрабаванняў Майдану? Само словазлучэнне — «перазагрузка краіны» — палітыкі, здаецца, ужо добра вывучылі. Але дасюль было не чуваць, каб хтосьці з іх наважыўся хаця б дэклараваць план той перазагрузкі.

Ці разумеюць яны, што за перамогу, здабытую крывёю, спытаюць ужо па самым вялікім рахунку? А не проста горка плюнуць, як мінулым разам…

**P.S.:** 2 лютага ў Кіеве адбыўся пазачарговы ўсеўкраінскі форум Еўрамайданаў, на якім зарэгістраваліся 68 дэлегатаў з 46-ці Еўрамайданаў. Удзельнікі засведчылі, што хочуць больш, чым звычайнай змены твараў ва ўладзе.

Апроч іншага, прадстаўнікі грамадскасці сфармулявалі патрабаванні да чальцоў будучага тэхнічнага ўрада. Прывяду некаторыя з іх:

— Высокія маральныя і рэпутацыйныя якасці (праўдзівасць і паўната прадстаўлення інфармацыі пра сябе, членаў сям'і і натарыяльна давераных асоб, пісьмовую згоду кандыдата на поўнае дэкляраванне ўсіх даходаў і выдаткаў, згоду на асаблівы рэжым кантролю яго дзейнасці і праходжання паліграфа).

— Адсутнасць карупцыйных правапарушэнняў.

— Незалежнасць ад алігархічных груп і арганізаваных злачынных груповак.

— Неўваходжанне ў органы выканаўчай улады ў перыяд 2010–2014 гг.

Прэм'ер-міністрам тэхнічнага ўраду павінен быць чалавек, «які з'яўляецца маральным, мае мандат даверу грамадзянскай супольнасці і антыкрызісную праграму, падтрыманую грамадствам». Кандыдаты ў чальцы ўрада павінны «атрымаць рэкамендацыю ад грамадскіх, прафесійных супольнасцяў і Майдана». Абмеркаванне зместу і асноўных пунктаў праграмы тэхнічнага ўрада «павінна быць праведзена публічна на Нацыянальным круглым стале з удзелам прадстаўнікоў апазіцыі, грамадзянскай супольнасці ад майданаў і экспертнай супольнасці».

Апроч ажыццяўлення рэформ з мэтай пераадолення эканамічнага крызісу, аднаўлення эканамічнага росту і сацыяльных правоў грамадзян, будучы ўрад мусіць ажыццявіць дэцэнтралізацыю ўлады на карысць мясцовага самакіравання і падрыхтаваць канстытуцыйную рэформу, заснаваную «на прынцыпах парламентарызму і забеспячэнні магчымасці прамога народаўладдзя».

На думку Уладзіміра Агрызкі, дыпламат,а міністра замежных спраў Украіны ў 2007–2009 гадах, «грамадзянская супольнасць ва Украіне глядзіць далей за палітыкаў, якія імкнуцца яе прадстаўляць».

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 10 ЛЮТАГА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Меладрама «Лекцыі для хатніх гаспадынь» (Расія).
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Нашы.
**13.10** Камедыя «Міміно» (СССР).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Баявік «Тры ікс» (ЗША).
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.10** Прэм'ера! Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). 1-2 серыі.
**00.20** Актуальнае інтэрв'ю.
**01.05** Дзень спорту.
**01.20** Трылер «Таемнае вакно» (ЗША).

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** Фільм «Вялікія надзеі».

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.25** «Далёкія сваякі».
**12.50** «Вялікі горад».
**13.50** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.05** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «13 раён: ультыматум».
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Сецевая пагроза» («Беларусьфільм»). Заключная серыя.
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**14.30** Прыгодніцкі трылер «Вертыкальная мяжа» (ЗША).
**16.50** Дэтэктыўны серыял «Сецевая пагроза» («Беларусьфільм»). Заключная серыя.
**17.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Біятлон. Гонка праследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.55** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні».
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.40** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**23.25** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабранакі».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Роднае слова». Паэт, драматург, мовазнаўца, мастак, скульптар, грамадскі дзеяч Карусь Каганец.
**08.55** «Наша спадчына». Жалудоцкі палац. Часткі 1-я і 2-я.
**09.20** «Палескі пачастунак». Лекавая сумесь.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог».
**11.30** «Калейдаскоп».
**11.40** «Год у гісторыі».
**11.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Івана Васільевіча Карасёва.
**12.20** «Людзі на балоце». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**14.50** «Адлюстраванні». Мадоны Максіма Багдановіча.
**15.15** «Уладзімір Співакоў запрашае». Оперны гала-канцэрт з удзелам Нацыянальнага філарманічнага аркестра Расіі.
**16.35** «Наперад у мінулае».
**17.00** «Карані».
**17.30** «Найменні і вобразы». Творчасць І. Мамановіч і М. Кулецкай - роспіс па шкле.
**17.45** «Цуды прыроды». Арктыка. Канада.
**18.15** «Дзелавыя людзі». Гістарычныя сталіцы дзелавой ініцыятывы.
**18.40** «Андрэй Грамыка. Гігант, якому ўдалося выжыць». Дакументальны фільм.
**19.30** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.00** «Антон Іванавіч злуецца». Мастацкі фільм.
**23.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Івана Васільевіча Карасёва.
**23.50** «Калейдаскоп».
**23.55** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Праграма «Беларусь сёння».
**08.15, 09.00** Маст. фільм «Ты зверху, я знізу».
**10.10** Маст. фільм «Ноч старшыні».
**11.30** Праграма «Народжаныя перамагаць».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**13.55** Майстроў. фільм «У свеце каменных джунгляў».
**14.45** Праграма «Дзіма, давай!».
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Ваш гонар».
**18.20** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Беларусь сёння».
**23.30** Ток-Шоў «Слова за слова».
**00.20** Праграма «Агульны інтарэс».
**00.45** Маст. фільм «Ноч старшыні».
**02.00** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.40** Тэлесерыял «Ваш гонар».
**04.25** Майстроў. фільм «Рэальны свет».

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.08** Цуд тэхнікі.
**08.41, 09.38** Новыя рускія сенсацыі.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.58** Да суда.
**11.56** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.23** Справа лекараў.
**15.11** Гатуем.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.38** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15** Вуліцы пабітых ліхтароў-12.
**21.25, 22.10** Шаман-2.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37** Марскія д'яблы-5.
**00.05, 01.18** Паверх.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**08.00** «Людскія справы».
**08.30** Два на два (тэледыскусія): Палітызацыя спорту напярэдадні Алімпіяды ў Сочы ды чэмпіянату свету па хакеі ў Менску.
**09.05** Дакументальная гадзіна: «Ядвабныя шляхі. Дарогі сустрэчаў», дак. фільм, 1997 г., Кітай–Турцыя.
**10.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.10** «Mad Men. Утрапёныя», серыял.
**11.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Чачот.
**12.10** ПраСвет.
**12.35** Два на два (тэледыскусія): Палітызацыя спорту напярэдадні Алімпіяды ў Сочы ды чэмпіянату свету па хакеі ў Менску.
**13.10** Зона «Свабоды».
**13.45** «Людскія справы».
**14.20** Дакументальная гадзіна: «Ядвабныя шляхі. Дарогі сустрэчаў», дак. фільм, 1997 г., Кітай–Турцыя.
**15.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Чачот.
**16.15** «Ідэальны муж», камедыя, 1999 г., Вялікабрытанія.
**17.55** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 2 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Відзьмо-невідзьмо.
**22.10** «Ідэальны муж», камедыя, 1999 г., Вялікабрытанія.
**23.50, 02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.25** Асабісты капітал.
**01.45** Аб'ектыў.
**02.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).

## 11 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Дак. цыкл «Без права на дубль».
**12.10** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**13.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Прэм'ера! Меладрама «Другое дыханне» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.10** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). 3-я і 4-я серыі.
**00.20** Сфера інтарэсаў.
**01.15** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Вер мне». Шматсер. фільм.
**23.10** Дэтэктыў «Што хавае хлусня».
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Ежа багоў».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Ундзіна» (2009 г.).
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Увесь я» (ЗША, 1984 г.).
**22.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Смяротны танец» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**10.15** Беларуская кухня.
**10.50** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні».
**12.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Лыжны спорт. Спрынт. Мужчыны. Жанчыны. Кваліфікацыя. Прамая трансляцыя.
**13.50** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**14.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Лыжны спорт. Спрынт. Мужчыны. Жанчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**16.50** Дэтэктыўны серыял «Смяротны танец» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**17.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Біятлон. Гонка праследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**18.55** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні» (Расія). Заключныя серыі.
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**22.40** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**23.35** Баскетбол. Кубак Выкліку.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабранакі».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Майстры і чаляднікі». Разьбярства.
**08.55** «Цуды прыроды».
**09.20** «Росчырк часу». Палет сіняй птушкі. Карціна мастачкі Анастасіі Фяцісавай.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.50** Серыял. «Пелагія і белы бульдог».
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.40** «Год у гісторыі».
**11.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Юрыя Семянякі.
**12.25** «Цуд-волаты». Дак. фільм пра ўзбраенне і абмундзіраванне рускай арміі пачатку XIX стагоддзя.
**12.50** «Свет прыроды». Воўк па мянушцы Тэр.
**13.05** «В барабан не бью без толку...» Дакументальны фільм пра гук у кіно.
**13.50** «Адлюстраванні». Францішка Урсула Радзівіл.
**14.15** «Карані».
**14.40** «Імгненні музейнай цішыні». Дакументальны фільм.
**15.00** «Палескі пачастунак». Парсючок.
**15.15** «Антон Іванавіч злуецца». Маст.фільм.
**16.40** «Пейзажы скрозь час». Этрэта.
**17.05** «Росчырк часу». Кніга Дамбавецкага. Пра Магілёўскую губерню ў XIX стагоддзі.
**17.20** «Хлапок адной далоні». Дак. фільм.
**17.50** «Я кахаю цябе...» Вершы Н. Мацяш.
**18.05** «Скарбніца Берасцейшчыны». Архітэктурнае Палессе.
**18.40** «Пані Перамога рэжысёра Матыля». Фільм-партрэт.
**19.30** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.00** «Жыццё і незвычайныя прыгоды Рабінзона Круза». Мастацкі фільм.
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Юрыя Семянякі.
**23.55** «Калейдаскоп».
**00.00** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Праграма «Агульны інтарэс».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**10.00** Маст. фільм «Ксенія - каханая жонка Фёдара».
**11.30** Праграма «Народжаныя перамагаць».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**13.55** Майстроў. фільм «У свеце цудаў».
**14.45** Праграма «Дзіма, давай!».
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.20** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.15** Праграма «Саюзнікі».
**23.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.35** Маст. фільм «Ксенія - каханая жонка Фёдара».
**02.10** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.50** Тэлесерыял «Монтэкрыста».

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.09** Цуд тэхнікі.
**08.44, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15** Вуліцы пабітых ліхтароў-12.
**21.25, 22.10** Шаман-2.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37** Марскія д'яблы-5.
**00.05, 01.19** Паверх.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45, 00.30, 01.55.** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 13.55** Асабісты капітал.
**08.55, 14.20** Аб'ектыў.
**09.40, 15.05** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10, 15.30** Два на два (тэледыскусія): Палітызацыя спорту напярэдадні Алімпіяды ў Сочы ды чэмпіянату свету па хакеі ў Менску.
**10.45, 16.00** «Дом», серыял: 22 серыя.
**17.35** Дак. гадзіна: «Ядвабныя шляхі. Дарогі сустрэчаў», дак. фільм, 1997 г., Кітай–Турцыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.40** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45, 02.15** Рэмарка: Каханне.
**22.10** «Лондандцы», серыял: 5 серыя.
**23.00** «Людскія справы».
**01.10** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**01.30** Аб'ектыў.

## 12 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Другое дыханне» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). 3-я і 4-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 00.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Другое дыханне» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.10** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). 5-я і 6-я серыі.
**00.20** Актуальнае інтэрв'ю.
**01.10** Дзень спорту.
**01.20** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Вер мне». Шматсер. фільм.
**23.10** Фільм «Горад, імя якому Рым».
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не сніласся».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Увесь я» (ЗША, 1984 г.).
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Я ніколі не буду тваёй».
**22.10** «Уявіце сабе».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**09.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Горналыжны спорт. Хуткасны спуск. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**12.00** Дэтэктыўны серыял «Смяротны танец» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**13.10** Прыгодніцкі серыял «Каралі гульні» (Расія). Заключныя серыі.
**15.15** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**16.00** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**17.05** Рэпарцёр.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Смяротны танец» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**18.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**19.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Хакей. Чэхія - Швецыя. Мужчыны. Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.20 Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**22.25** Тэлебарометр.
**22.30** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Фігурнае катанне. Пары. Адвольная праграма.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.25** «Карані».
**08.55** «Пакуль гарыць свечка...» Марына Цвятаева.
**09.20** «Палескі пачастунак». Бульба з грыбной мачанкай.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог».
**11.30** «Калейдаскоп».
**11.40** «Год у гісторыі».
**11.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Юрыя Міроненкі.
**12.20** «Росчырк часу». Мастак Вітольд Бялыніцкі-Біруля.
**12.35** «Скарбніца Магілеўшчыны». Сімвал Адраджэння - Магілёўская ратуша.
**13.05** «Цуды прыроды». Коста-Рыка. Кенія.
**13.35** «Памяць». Мастак Міхаіл Савіцкі.
**14.05** «Маем рэчы». Млын.
**14.20** «Камертон». Джазавы мультыінструменталіст і кампазітар Давід Галашчокін.
**14.50** «Наша спадчына». Пінскія святыні. Часткі 1-я і 2-я.
**15.15** «Жыццё і незвычайныя прыгоды Рабінзона Круза». Мастацкі фільм.
**16.50** «Свет прыроды». Блакітная жамчужына Палесся. Гісторыя і сучаснасць Выганашчанскага возера.
**17.20** «Сямейны альбом». Народны артыст СССР Аркадзь Саўчанка.
**17.35** «Музеум». Шэдэўры беларускага іканапісу.
**17.50** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». Барыс Плотнікаў. «Узыходжанне». Дак. фільм.
**18.15** «Дзелавыя людзі». Гісторыя роду Скірмунтаў і гісторыя пошты.
**18.45** «Марк Шагал. Майстэрства кахання». Дакументальны фільм.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.00** «Прыморскі бульвар». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**00.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Юрыя Міроненкі.
**00.35** «Калейдаскоп».
**00.40** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**10.00** Маст. фільм.
**11.30** Праграма «Народжаныя перамагаць».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**13.55** Майстроў. фільм «У свеце цудаў».
**14.45** Праграма «Дзіма, давай!».
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.20** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**23.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.25** Маст. фільм.
**02.00** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.45** Тэлесерыял «Монтэкрыста».

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.09** Цуд тэхнікі.
**08.43, 10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.58** Да суда.
**11.56** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.12** Справа густу.
**15.39** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15** Вуліцы пабітых ліхтароў-12.
**21.25, 22.10** Шаман-2.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37** Марскія д'яблы-5.
**00.05, 01.19** Паверх.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.25, 14.50, 00.00, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Рэмарка: Каханне.
**10.10** Відзьмо-невідзьмо.
**10.35** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знявечаная мова зямлі.
**10.50** Назад у будучыню.
**11.00** «Людскія справы».
**11.35** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял.
**14.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**14.20** Аб'ектыў.
**15.10** Рэмарка: Каханне.
**15.35** Гісторыя пад знакам Пагоні: Ян Чачот.
**15.45** Відзьмо-невідзьмо.
**16.15** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знявечаная мова зямлі.
**16.30** Назад у будучыню.
**16.40** «Людскія справы».
**17.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Гёрынг: цана смерці».
**18.00** «Лонданцы», серыял: 5 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?
**22.10** «Парадокс», серыял: 6 серыя.
**22.55** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас. Шэрая птушка з-пад Вільні», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**23.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.55** Аб'ектыў.
**02.45** 54 %: Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?

## 13 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Другое дыханне».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.05** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). 5-я і 6-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Другое дыханне» (Расія). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Дзённік.
**22.10** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сіндром Цмока» (Расія - Украіна). 7-я і 8-я серыі.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**01.20** Дзень спорту.
**01.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Шматсер. фільм «Цікаўная Варвара».
**23.10** Трылер «У пасцелі з ворагам».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не сніласся».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка 2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Я ніколі не буду тваёй» (ЗША, 2007 г.).
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон-5» (ЗША - Канада, 1993 г.).
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Смяротны танец» («Беларусьфільм»). 3-я серыя.
**10.20** Заўтра - гэта мы! .
**10.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Хакей. Фінляндыя - Аўстрыя. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**13.35** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.50** Дэтэктыўны серыял «Смяротны танец» («Беларусьфільм»). 3-я серыя.
**16.50** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Біятлон. Індывідуальная гонка. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**19.00** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**19.55** Алімпійскія гульні. Сочы-2014. Хакей. Канада - Нарвегія. Мужчыны. Прамая трансляцыя. У перапынку: 21.20 КЕНО.
**22.25** Тэлебарометр.
**22.30** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**23.30** Трылер «Чырвоны штат» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Камертон». Піяніст, кампазітар, джазмен Сяргей Жылін.
**08.55** «Скарбніца Міншчыны». Гісторыя і храмы Валожына.
**09.20** «Росчырк часу». Мастачка Г.Лукіна.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.45** Серыял. «Пелагія і белы бульдог». 8-я серыя.
**11.30** «Калейдаскоп».
**11.35** «Год у гісторыі».
**11.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста БССР А. Кашкера.
**12.20** «Наша спадчына». Палац Валовічаў.
**12.40** «Кінаржысёр Барыс Сцяпанаў». Фільм-партрэт.
**13.10** «Свет прыроды». Лось.
**13.25** «Вочы вады. Ігар Шкляроўскі». Дакументальны фільм.
**13.55** «Палескі пачастунак». Маннік.
**14.10** «Дзелавыя людзі». Беларусь - марская дзяржава.
**14.35** «Музеум». Гістарычны партрэт.
**14.50** «Адлюстраванні». Леў Сапега.
**15.15** «Прыморскі бульвар». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**17.25** «Карані».
**17.50** «Найменні і вобразы». Народны майстар Надзея Салейка.
**18.05** «Цуды прыроды». Мадэйра. Тайвань. Балі.
**18.40** «Эпоха ВІА». Дак. фільм. Частка 1-я.
**19.30** «Калейдаскоп».
**19.40** Серыял. «Доктар Жывага». 1-я серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.35** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.05** «Тартак». Мастацкі фільм.
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці заслужанага артыста БССР А. Кашкера.
**23.50** «Калейдаскоп».
**23.55** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**10.00** Маст. фільм «Адзін раз адзін».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**13.55** Фільм «У свеце мінулага».
**14.45** Праграма «Дзіма, давай!».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.00** Праграма «Злачынствы і пакаранне».
**23.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.20** Маст. фільм «Цырк».
**02.00** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.40** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**04.40** Праграма «Дзіма, давай!».

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.11** Цуд тэхнікі.
**08.39, 09.37** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.58** Да суда.
**11.56** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і Паказваем.
**18.32** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15** Вуліцы пабітых ліхтароў-12.
**21.25, 22.10** Шаман-2.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37** Марскія д'яблы-5.
**00.05, 01.19** Паверх.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.25, 14.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Аб'ектыў.
**09.40** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?.
**10.00** Рэмарка (культурніцкая праграма): Каханне.
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.55** «Парадокс», серыял: 6 серыя.
**11.40** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас. Шэрая птушка з-пад Вільні», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**13.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.15** Аб'ектыў.
**15.05** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?.
**15.25** Рэмарка (культурніцкая праграма): Каханне.
**15.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.20** «Парадокс», серыял: 6 серыя.
**17.05** Невядомая Беларусь: «Зоська Верас. Шэрая птушка з-пад Вільні», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Чачот.
**17.55** «Час гонару», серыял: 72 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгода ката Філімона».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Два на два (тэледыскусія).
**22.20** «Бабуля, тысячу разоў», дак. фільм, 2010 г., Аб'яднаныя Арабскія Эміраты–Катар–Ліван.
**23.10** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Згаі», серыял: 7 серыя.
**00.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.55** Аб'ектыў.
**02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.40** Два на два (тэледыскусія).

АГЛЯД

# ЯКОЙ БУДЗЕ РАСІЯ ПАСЛЯ СОЧЫ?



Алег НОВІКАЎ

**Алімпіяда ў Сочы яшчэ не пачалася, аднак эксперты ўжо актыўна спрачаюцца, наколькі яе вынікі паўплываюць на фізіяномію пуцінскага рэжыму.**

Адзін з вынікаў сочынскай алімпіяды вядомы ўжо зараз. Гульні ў Сочы працягнулі тэндэнцыю, калі алімпіяды праводзяцца перш за ўсё ў палітычных мэтах. Так, напрыклад, зрабіў Пекін у 2008 годзе, каб давесці свае сусветныя амбіцыі. Пуціну Алімпіяда патрэбна з той жа нагоды.

Як адзначае «Les Echos»: «Сочы павінны стаць кульмінацыяй трыумфальнага вяртання Расіі. Прадэманстраваўшы якасць дыпламатыі ў сірыйскім крызісе і пераканаўчасць фінансавых аргументаў на ўкраінскім пытанні, Пуцін можа прыкметна падняцца на Гульнях, якія ён хацеў, як ніхто, і нёс на сваіх плячах ад пачатку да канца. Калі так сапраўды адбудзецца, Пуцін яшчэ больш умацуецца ва ўласнай логіцы і працягне будаваць вакол Масквы копію Савета эканамічнай узаемадапамогі часоў камуністычнага блоку. Яго маштабы, зразумела, будуць значна меншымі, але ён усё роўна можа стаць для Расіі пераканаўчым доказам існавання ў Еўропе альтэрнатывы ЕС, якая будзе абапірацца на расійскую «цывілізацыю» і энергетыку».

Першым, хто адчуе на сабе «пяшчоту» постсочынскай Расіі, будзе, безумоўна, Украіна. «Украіне ўжо цяпер трэба думаць, што рабіць: пасля Сочы ў іх не будзе часу, — піша вашынгтонскі паліталаг Поль Гобл у сваім блогу «Windows of Eurasia», — Мы не ведаем, якія былі б сённяшнія дзеянні Расіі ва Украіне, калі б не было такіх важных для Пуціна гульняў у Сочы. Ходзяць чуткі нават аб магчымасці ваеннай інтэрвенцыі і новым газавым канфлікце».

Актывізацыю знешняй палітыкі Расіі па перыметры СНД трэба чакаць і з улікам так званага «посталімпійскага сіндрому». Так называюць дэпрэсію, якую звычайна перажываюць эканомікі краін, якія для арганізацыі прэстыжных спартовых мерапрыемстваў ішлі на вялікія выдаткі. Пра гэта піша «The Financial Times». Брытанскае выданне сцвярджае: «Існуе цэлы спіс краін, якія спачатку сталі гаспадарамі прэстыжных спартыўных мерапрыемстваў, а пазней перажылі эканамічны заняпад — напрыклад, Грэцыя і Паўднёвая Афрыка. Паводле экспертных ацэнак, на падрыхтоўку да сочынскай Алімпіяды Масква выдаткавала больш за 50 мільярдаў долараў. Расплата па гэтых даўгах пасля Алімпіяды можа балюча ўдарыць па расійскай эканоміцы. У гэтай сітуацыі зімовыя Гульні ў Сочы, якія з'яўляюцца дэманстрацыйнай вітрынай рэжыму Уладзіміра Пуціна, здольныя пагоршыць эканамічную сітуацыю і ў будучыні істотна аслабіць пазіцыі расійскага лідара».

Ліберальная «Новая газета» лічыць, што выкліканыя алімпіядай негатыўныя працэсы ў эканоміцы ў выніку могуць пахаваць усю сістэму: «Пры захаванні цяперашніх трэндаў і людзей ва ўладзе зімовая Алімпіяда–2014 у Сочы рызыкуе апынуцца прыкладна тым жа, чым была летняя Алімпіяда–1980 у Маскве для СССР. Тады да распаду краіны, якая праводзіла не менш пафасныя Гульні, заставалася 11 гадоў».

Калі гутарка ідзе пра постсочынскі ўнутрыпалітычны курс Пуціна, то тут палітычныя сіноптыкі чакаюць сезон прыходу новых палітычных халадоў. Гэта таксама звязваюць з тым, як расійская апазіцыя адказала на ліберальныя крокі Пуціна — вызваленне Хадаркоўскага і ўдзельнікаў групы «Pussy Riot». Замест таго, каб панізіць тон крытыкі рэжыму на час алімпіяды, апазіцыя, наадварот, выкарыстоўвае Сочы як казырную карту ў крытыцы Крамля. У якасці прыкладу можна ўзгадаць даклад Барыса Нямцова аб сістэме адкатаў і клянавасці, на якіх, нібыта, трымаецца ўсё алімпійскае будаўніцтва. На мінулым тыдні адзін з расійскіх апазіцыйных лідараў Аляксей Навальны выпусціў даклад, у якім сцвярджаецца, што цэлы шэраг «пазаконкурсных» будаўнічых кантрактаў, якія былі адданыя сябрам Пуціна, дазволіў ім пакласці ў кішэню прыкладна 15 мільярдаў долараў бюджэтных сродкаў.

Як пясочылі, так і пясочаць Пуціна абаронцы правоў сэксуальных меншасцяў. «Ліберальная пазіцыя, якую Пуціна заняў напярэдадні Алімпіяды, была сустрэтая з недаверам яго апанентамі. Таму пасля Сочы ўлада можа зноў пачаць закручваць гайкі», — лічыць брытанская «The Independent».

Некаторая частка антыпуцінскай апазіцыі ўнутры Садовага кальца пачала мусіраваць ідэю пра тое, што Пуцін збіраецца правесці ў Сочы тэракт, каб на хвалі шоку зноў скансалідаваць вакол сябе грамадства і атрымаць картбланш на пагром лібералаў. Але большасць экспертаў скептычна ставяцца да такой канспіралогіі.

З іншага боку, узнікае лагічнае пытанне — ці не захоча нехта скампраметаваць Гульні і рэжым Пуціна за кошт экстрэмісцкіх вылазак падчас Алімпіяды? Напярэдадні мерапрыемства шэраг чачэнскіх радыкальных груповак сапраўды выступілі з пагрозамі арганізатарам Сочы і турыстам. Пытанне, ці магчымы тэракт у Сочы, шмат абмяркоўваюць як у сеціве, так і на розных экспертных форумах. Найбольш экстравагантную тэорыю прапанавала выданне snob.ru. Тут агучваецца версія таго, што саму ідэю правядзення алімпіяды Пуціну падсунулі агенты замежных спецслужбаў. Алімпійская будоўля цудоўна высветліла для сярэднестатыстычнага рускага карупцыю і неэфектыўнасць дзяржаўнага менеджменту. Цяпер засталося давесці, што сістэма бяспекі таксама ўся ў дзірках.

Аднак большасць каментатараў лічаць, што канцэнтрацыя сілавікоў на тэрыторыі правядзення Гульняў дазволіць хутка лакалізаваць усякіх тэрарыстаў. Спасылаюцца на пасяховы вопыт арганізацыі сістэмы бяспекі падчас летняй універсіяды ў Казані, дзе ніякіх надзвычайных здарэнняў сапраўды не было.

Але агульная карцінка ўсё роўна атрымліваецца невясёлая. Пасля Сочы ў Расіі, паводле думкі большасці экспертаў, трэба чакаць новых палітычных замаразкаў і актывізацыі расійскага фактара ва Украіне.

Таму, каб неяк узняць тонус, у фінале ёсць сэнс працытаваць вядомую праваабаронцу Элу Памфілаву. На яе думку, за час падрыхтоўкі да Сочы Пуцін зразумеў усю неадэкватнасць створанай ім сістэмы і зараз рыхтуе ліберальны паварот. «Я ўпэўнена, што Уладзімір Пуцін па розных прычынах пачне мяняць трэнд. І пад ціскам грамадства, і бачачы, наколькі небяспечная цяперашняя сістэма, якая сама пажырае сябе. З ягоным вопытам ён выдатна разумее, што ў яго проста няма іншага выйсця, акрамя як змяняць сістэму, каб не выкарыстоўваць гнілыя, але лаяльныя пункты апоры. Пасля Алімпіяды ў Сочы, не буду называць іншыя прычыны, сітуацыя зменіцца», — сказала Панфілава ў інтэрв'ю «Deutsche Welle».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЮРЫЙ ЛЯНКЭ



Прэм'ер Малдовы вельмі жорстка прайшоўся па плебісцыту, які 2 лютага меў месца ў Гагаузскай аўтаноміі. Гагаузам прапанавалі выказацца наконт таго, да якога геапалітычнага блока павінен далучыцца іх край — да Мытнага саюза або да Еўрасаюза. Паколькі арганізатары плебісцыту арыентуюцца на Маскву, вынікі апытання былі вядомы яшчэ да пачатку. 98 працэнтаў абралі еўразійскую перспектыву і толькі 1 працэнт пажадаў жыць у адзінай Еўропе. Хаця рэферэндуму меў выключна кансультатыўны характар, Кішынёў вельмі занепакоены. Перш за ўсё, Камрат (сталіца Гагаузіі) прадэманстраваў, што можа ігнараваць інструкцыі цэнтру: раней пракуратура забараніла правядзенне рэферэндуму, аднак яе пагрозы пакінулі без увагі. Паводле словаў Лянкэ, тое, што адбылося ў Гагаузіі, «стымулюе феномен сепаратызму». У якасці адказу на выхадку гагаузаў Лянкэ заявіў аб «магчымай карэкціроўцы статусу аўтаноміі». Між тым, пакуль Лянкэ змагаецца з гагаузамі, муніцыпалітэт гораду Бельцы, што на поўначы краіны, выступіў у падтрымку ініцыятывы Камрату і паабяцаў бліжэйшым часам правесці ў сябе падобнае галасаванне.

### АМАЛЬ КАРБУЛЬ



40-гадовая міністр турызму Туніса ледзь пачала займацца справамі (яна атрымала міністэрства ў студзені), як стала фігурантам маштабнага скандалу. Усё з-за таго, што міністр наведала Ізраіль. На думку шматлікіх тунісцаў, такім чынам яна парушыла святы для ўсіх арабаў прынцып — не мець ніякіх кантактаў з Ізраілем з-за яго палітыкі ў палесцінскім пытанні. Эмоцыі зайшлі настолькі далёка, што некаторыя блізкія да ісламістаў газеты выйшлі з загалоўкамі: «Збірай свае чамаданы і едзь у Ізраіль». Пры гэтым большасць тунісцаў вельмі мала цікавіцца тым, што візіт у Ізраіль быў зроблены ў рамках праграмы Аб'яднаных нацый па трэнінгу палесцінцаў, якія працуюць у аэрапортах. Ісламскім палітыкам проста ўвогуле не падабаецца біяграфія Амаль, якая паспела павучыцца ў Германіі, напісаць доктарскую дысертацыю ў Оксфардзе і папрацаваць на кампанію «Mercedes-Benz». Быццам бы яе жыццёвы шлях — кепскі прыклад для маладых тунісцаў. Таксама кампанія супраць Амаль можа быць помстай за тое, што ў нядаўна прынятай канстытуцыі Тунісу няма раздзелу пра тое, што Туніс прынцыпова не мае адносін з Ізраілем, як таго дабіваліся фундаменталісты. Амаль папрасілася ў адстаўку, аднак прэм'ер-міністр патрабаваў, каб яна працягвала выконваць свае функцыі.

### ІЛІЯС КАСІДАРЫС

Спікер грэчаскай праварадыкальнай партыі «Залаты світанак» прыдумаў хітры план, як выратаваць сваю партыю ад пагрозы забароны. Такая перспектыва цалкам рэальная з улікам апошніх падзей. У верасні мінулага года, калі чальцы яго партыі забілі вулічнага музыку, грамадскасць дабілася таго, каб улада нарэшце занялася экстрэмістамі. Супраць лідараў партыі было высунута абвінавачанне аб удзеле ў крымінальнай арганізацыі, а сам старшыня партыі арыштаваны. Цяпер у канстытуцыйным судзе ідуць дэбаты наконт забароны «Залатога світанку». Такое рашэнне, па словах Касідарыса, павінны прыняць увесну, калі пачнецца кампанія па выбарах у Еўрапарламент («Залаты світанак» як трэцяя па папулярнасці партыя ў Грэцыі мае някепскія шансы даслаць у Брусэль сваіх дэпутатаў). Каб апярэдзіць працўнікаў, Касідарыс заклікаў да стварэння запасной партыі, якая ў выпадку пераследу «Залатога світанку», зможа прадстаўляць правых радыкалаў на выбарах. Для новай структуры ўжо прыдуманая «арыгінальная» назва — «Нацыянальны світанак». Пры гэтым палітык паабяцаў, што для жадаючых запісацца ў новую партыю будзе ўстаноўлены жорсткі фільтр: «У «Нацыянальны світанак» не будзе прыняты не адзін са злачынцаў — цяперашніх сяброў «Залатога світанку», — сказаў ён, што выклікала шмат іранічных каментароў. Праўда, партыя ўсё роўна будзе ваяўнічая. Па словах яе лідара, адной з задач новага фармавання пасля прыходу да ўлады будзе абвяшчэнне вайны Турцыі, якая, быццам, незаконна акупуе два грэчаскія астравы ў Міжземным моры.



ЦІКАВА

# ПОЛЬСКІЯ ФЕРМАПІЛЫ ПАД БУДСЛАВАМ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Першымі, хто сустрэў часткі Чырвонай Арміі, якія ўварваліся ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года, былі байцы польскага Корпуса аховы памежжа (КАП). Большасць з памежнікаў загінула, да канца абараняючы «рыжскую мяжу».**



Памежнікі стражніцы «Сачэўкі». 1927 год



Савецкі танк перасякае польскую мяжу ля Браслава

## Спецорган для аховы памежжа

У вайсковай іерархіі міжваеннай Польшчы КАП займала асобнае месца. Гэтая служба была створана ў 1924 годзе, калі сітуацыя ў Заходняй Беларусі і Украіне была напружанай. Паліцыя і войска не былі ў стане эфектыўна змагацца з бальшавіцкімі дыверсантамі, якія дзейнічалі па лініі «актыўнай выведкі» ва ўсходніх ваяводствах ІІ Рэчы Паспалітай. У канцы 1920-х сярэдзіне 1930-х гадоў Корпус аховы памежжа быў элітарнай адзінкай у структуры Міністэрства ўнутраных спраў.

У польскім вайсковым часопісе «Wiarus» за красавік 1938 года адзначалася: «Галоўнай мэтай КАП з'яўляецца захаванне спакою і бяспекі на тэрыторыі «крэсаў усходніх». Роля гэтай структуры не абмяжоўваецца абаронай дзяржаўнай мяжы ад нападаў ворага. Знаходзячыся сярод крэсавага насельніцтва і ведаючы яго патрэбы, жаўнеры Корпусу ўзялі на сябе шэраг грамадскіх абавязкаў, якія яны выконваюць у меру сіл і магчымасцяў. КАП дапамагае мясцоваму насельніцтву палепшыць сістэму землекарыстання, фінансуе пашырэнне адукацыі сярод сялян. Важную ролю жаўнеры КАП адыгрываюць у абароне грамадзян ад бальшавіцкіх агітатараў, якія спрабуюць дэстабілізаваць сітуацыю ў рэгіёне. Нарэшце, Корпус забяспечвае эканамічную бяспеку краіны, змагаючыся супраць кантрабанды папяросаў і спірту».

Часткі КАП атрымлівалі лепшае і найбольш сучаснае на той момант узбраенне. У свой час «капісты» тэставалі амерыканскі пісталет-кулямет «Томпсан» і фінскі «Суомі». Пазней апошні з іх трапіць на ўзбраенне некаторых падраздзяленняў паліцыі. У пачатку 1930-х гадоў для аховы ўсходніх межаў КАП выкарыстоўвала так званыя «кардоны». Так, ля самай лініі мяжы знаходзіліся заставы-стражніцы, якія праз пасты і засады забяспечвалі ахову памежнай дыстанцыі.

У 1937 годзе на Усходзе Польшчы была ўведзена новая патрульна-выведвальная сістэма аховы мяжы, у якой вялікі акцэнт рабіўся менавіта на мабільнасці польскіх памежнікаў. Пры гэтым «капісты» павінны былі актывізаваць працу з агентурай не толькі ўнутры заходнебеларускіх ваяводстваў, але і ў памежным пасе БССР. Напярэдадні Другой сусветнай вайны жаўнеры КАП атрымалі значную колькасць ровараў, а таксама саней (для ўмоў зімы). Замест вінтовак, памежнікам выдалі зручныя карабіны. Таксама «капістам» масава пачалі выдавацца кішэнныя і партатыўныя ліхтары. Непасрэдна на мяжы сталі стварацца назіральныя пункты з тэлефоннай сувяззю.

## Памежнікі рыхтуюцца да бою

Аднак вайна ў Польшчу прыйшла з Захаду. Падчас прыхаванай і ўсеагульнай мабілізацыі 1939 года значная частка падраздзяленняў КАП была перакінута бліжэй да магчымага тэатра вайсковых дзеянняў. У Заходняй Беларусі засталіся невялікія падраздзяленні непасрэдна на мяжы з БССР. У паўночнай частцы Віленскага ваяводства ахову памежжа ажыццяўлялі часткі палка КАП «Вілейка». Ён быў сфарміраваны ў 1929 годзе і падпарадкоўваўся камандаванню брыгады КАП «Вільня».

У сувязі з ліквідацыяй апошняй у 1937 годзе полк быў перападпарадкаваны непасрэдна камандаванню КАП у Варшаве. У перадваенную структуру гэтай вайсковай адзінкі, між іншым, уваходзілі: батальёны «Краснае», «Вілейка», «Будслаў», два эскадроны кавалерыі, рота сапёраў, станцыя паштовых галубоў, метэаралагічны пост. Пасля савіцкай мабілізацыі на Захад са складу палка былі перакінутыя сапёрныя і кавалерысцкія часткі палку. Пазней да іх далучыліся і пяхотныя падраздзяленні. 31 жніўня на сваёй базе полк пачаў фарміраваць 35-ю рэзервовую дывізію пяхоты.



Савецкія афіцэры ў Заходняй Беларусі

Амаль з першага дня Другой сусветнай польскае кіраўніцтва ад сваёй дыпламатычнай выведкі пачало атрымліваць інфармацыю аб падрыхтоўцы СССР да нападу на ІІ Рэч Паспалітую. У адной з дэпеш вайсковы аташэ Амбасады Польшчы ў Маскве пісаў: «7 верасня 1939 года. У мяне быў аташэ ЗША, які пацвердзіў, што ў СССР адбываецца мабілізацыя. Амерыканец расказаў, што днямі размаўляў з прадстаўніком савецкага генштаба палкоўнікам Асятровым, які прамовіў наступную фразу: «Цікава, як бы зараз пачувала сябе Польшча, калі б з ёй паступілі так, як яна ў мінулым годзе паступіла з Чэхаславакіяй». А напярэдадні ў маскоўскім «Парку культуры і адпачынку» прайшла публічная лекцыя, на якой абмяркоўвалася сітуацыя беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы. Дапускаю, што мабілізацыйныя працэсы ў СССР адбываюцца дзеля ўварванне ў нашу краіну пад прэтэкстам абароны вышэй узгаданых нацыянальных меншасцяў».

> У выніку бою 13 «капістаў» загінулі, 6 трапілі ў палон. Савецкія страты склалі 8 забітых і каля дзясятка параненых. Цела сяржанта Мніха было завезена ў Альковічы

Такая ж інфармацыя прыходзіла і ад польскіх памежнікаў. Выведка КАП інфармавала вайсковае камандаванне, што на сумежнай тэрыторыі БССР адбываецца канцэнтрацыя савецкіх войскаў. 15 і 16 верасня 1939 года з памежных стражніц, якія ўваходзілі ў склад батальёна «Будслаў», камандаванню ў Вілейцы было накіравана сакрэтнае данясенне, у якім указвалася, што «савецкія памежнікі ліквідуюць дротавыя загароды на мяжы і разбіраюць умацаванні». Гэтая інфармацыя азначала, што з дня на дзень Чырвоная Армія рушыць на Захад.

## Змагацца да апошняй кулі

На ўчастку першай памежнай роты Альковічы, якая ўваходзіла ў батальён КАП «Будслаў», было некалькі памежных стражніц: «Пасекі» (камандзір: сяржант Баляслаў Мніх), «Зацмень» (узводны Тадэвуш Каспровіч) і «Сачэўкі» (сяржант Станіслаў Хмялеўскі). Напярэдадні савецкай атакі камандзіры застаў абмяркавалі свае дзеянні на выпадак вайны з усходнім суседам. Зразумела, што гарнізон стражніцы ў 10–15 памежнікаў не змог бы стрымаць шматкроць пераўзыходзячыя войскі ўварвання. Аднак і пакідаць пазіцыі без бою «капісты» не пажадалі.

Відавочцы распавядалі, што Баляслаў Мніх сказаў тады калегам: «Гэтая застава — мае Фермапілы. Мы будзем тут біцца з бальшавікамі да канца». У стражніцы было пастаўлена некалькі буйнакаліберных кулямётаў, якія прывезлі з замаскіраваных пастоў на мяжы.

План абароны быў наступным: памежнікі КАП збіраліся стрымліваць савецкія атакі да апошняй кулі, а пазней, замініраваўшы заставу, адысці ў тыл праз спецыяльны падземны ход.

У сваю чаргу, гарнізоны дзвюх іншых стражніц у выпадку савецкай агрэсіі павінны былі адразу адыходзіць на Захад. На працягу тыдня да нападу польскія памежнікі ў біноклі назіралі, як «зялёныя фуражкі» прыбіралі ўмацаванні. Пры гэтым у эфіры польскіх вайсковых радыёстанцый пастаянна гучалі запэўніванні «калег з БССР», што тыя рыхтуюцца… прыйсці на дапамогу Польшчы ў вайне з нацыстамі.

Раніцай 17 верасня 1939 года польская застава ў Пасеках была атакаваная часткамі 14-га атрада памежных войск НКУС СССР, а таксама пяхотнікамі 2-й стралковай дывізіі РСЧА. На польскі бок уехала некалькі «палутарак», з якіх павыскоквалі чырвонаармейцы. «Палякі, здавайцеся! Мніх, мы ведаем, што вас там мала засталося. Калі здасцеся, усім гарантуем жыццё», — закрычаў бальшавіцкі камандзір. Праз секунду ў бок чырвонаармейцаў і «зялёных фуражак» паляцеў град куль. «Капісты» адкрылі агонь з усіх ствалоў. Некалькі «гасцей з Усходу» было забіта на месцы. Іншыя заляглі.

Распачаўся цяжкі бой. Хутка да бальшавікоў падышлі падмацаванні. Лічбавая перавага дала аб сабе знаць. Чырвонаармейцам удалося ўварвацца ў будынак стражніцы, і тут адбыўся выбух. У выніку бою 13 «капістаў» загінулі, 6 трапілі ў палон. Савецкія страты склалі 8 забітых і каля дзясятка параненых. Цела сяржанта Мніха і некалькіх польскіх памежнікаў былі знойдзеныя, пагружаныя ў грузавікі і завезеныя ў Альковічы. Там няшчасных выкінулі на плошчы і яшчэ некалькі дзён трымалі як напамін пра тое, што будзе з тымі, хто выступіць супраць краіны Саветаў. Праз некалькі дзён «капістаў» пахавалі на ўскраіне мястэчка. Магіла гераічнага памежніка і яго таварышаў захавалася да нашых дзён.

Жаўнеры дзвюх іншых стражніц адышлі ў акрэслены тылавы раён. 17 верасня ў 13 гадзін рэшткі батальёна «Будслаў» накіраваліся ў бок Вілейкі. 20 верасня «капісты» вялі ўпарты бой з часткамі Чырвонай Арміі і былі разбітыя. Кантужанага камандзіра заставы Сачэўкі сяржанта Станіслава Хмялеўскага ўзялі ў палон, адкуль ён праз некалькі дзён збег. У снежні 1939 года памежніка арыштавалі НКУС. Пазней яго накіравалі ў сталіцу БССР, дзе ўвесну 1940 года сляды сяржанта губляюцца. Хутчэй за ўсё, гэты чалавек трапіў у сумна вядомы Беларускі катынскі спіс і стаў адным з чатырох тысяч польскіх грамадзян, забітых у Мінску па загадзе Берыі. Камандзір стражніцы Зацмень, узводны Тадэвуш Каспровіч, таксама стаў ваеннапалонным. Да лета 1940 года яго трымалі ў турме НКУС у Вілейцы, а пазней накіравалі ў Мінск. «Суд» прысудзіў гэтага чалавека да зняволення ў ГУЛАГу, дзе ён і загінуў.

Падзеі верасня 1939 года ў Заходняй Беларусі да сённяшняга дня не дастаткова глыбока вывучаны ў айчыннай гістарыяграфіі. Тычыцца гэта і баявых дзеянняў памежнікаў КАП у першыя дні савецкага «вызвольнага паходу» ў Заходнюю Беларусь. Трагедыя гэтых людзей — гэта частка беларускай гісторыі.

**СПАДЧЫНА**

Сяргей ЧЫГРЫН

# 10 ГАДОЎ ЗА ВЕРШ



**Пра лёс беларускага паэта, вязня сталінскіх лагераў з Навагрудка Самсона Пярловіча мне нядаўна нагадаў настаўнік-пенсіянер, літаратар і краязнаўца Іван Іванавіч Вярбіцкі з Карэліч.**

«Я быў добра знаёмы з Самсонам Пярловічам. Ён быў асуджаны за Саюз вызвалення Беларусі. Яго выдаў правакатар з Баранавіч Алесь Бажко, які ў тыя першыя пасляваенныя гады быў супрацоўнікам баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная звязда». Поўнасцю вінаваты ў арышце Самсона Пярловіча і іншых хлопцаў і дзяўчат Алесь Бажко», — сказаў Іван Іванавіч. А потым дадаў: «А які лёс Самсона Пярловіча чакаў потым, вы павінны ведаць самі, я вам распавядаць не буду».

А лёс Самсона Пярловіча быў цяжкім. Калі мне хто прыгадвае Самсона Георгіевіча, заўсёды ўзгадваецца адзін з яго вершаў:

*Мне мой лёс здаецца*
*только чорным,*
*Што не варты меднага граша.*
*Толькі ёсць у ім і тыя зёрны,*
*Што мая выспельвала душа.*
*Тых зярнят няхай*
*не вельмі многа,*
*Але ўсё-ткі, служачы красе,*
*Веру я — да скарбу залатога*
*Хтосьці іх калісьці аднясе.*

З Самсонам Пярловічам мне пашанцавала сустрэцца некалькі разоў. Гэтыя сустрэчы адбываліся ў Навагрудку, дзе ён жыў і працаваў. Праўда, сустрэчы гэтыя былі нядоўгія і звязаныя з візітамі пісьменнікаў Гарадзеншчыны на Навагрудчыну. Калі туды прыязджалі пісьменнікі з іншых рэгіёнаў Беларусі, да нас далучаўся і Самсон Пярловіч. Але ён, вітаючыся з усімі, паводзіў сябе даволі сціпла, моўчкі, занадта ветліва. А калі выступалі на сцэне і давалі яму слова, ён заўсёды чытаў свае гумарыстычныя вершы. У глядачоў узнімаўся настрой, і яны адорвалі паэта апладысментамі. Ніхто з літаратараў, мне здаецца, ніколі ў яго не спытаў: як ты жывеш, дзе працуеш, як здароўе? Прыехалі ўсе — і паехалі, а Самсон Георгіевіч заставаўся ў сваім Навагрудку.

Нарадзіўся Самсон Пярловіч 13 жніўня 1923 года ў вёсцы Католышы на Навагрудчыне ў сям'і беларускага селяніна, дзе было сямёра сыноў. У чацвёртым класе польскай школы хлопчык Самсон напісаў першы свой верш пра Свіцязь. А калі закончыў польскую школу, пачаў настаўнічаць сам, вучыў дзетак у пачатковай школе.

У 1943 годзе 20-гадовага юнака схапілі немцы і павезлі ў Германію. Везлі яго і іншых юнакоў і дзяўчат на Рыгу. Па дарозе ён і яшчэ некалькі хлопцаў скокнулі з вагона. Але хутка іх схапіла латышская жандармерыя. Пасля допытаў іх адправілі на Лібаву, і хутка Самсон са сваімі сябрамі апынуўся ў лагеры за калючым дротам. Адтуль хлопцы зноў уцяклі і некалькі тыдняў былі вольнымі. Але хутка іх зноў арыштавалі і адправілі ажно ў Вену. Вызвалілі Самсона Пярловіча ў пачатку красавіку 1945 года. А 1 мая ён далучыўся да савецкіх воінаў.

Пасля вайны юнак вярнуўся на родную Навагрудчыну і пачаў супрацоўнічаць з Навагрудскай раённай газетай. У гэты час у розных рэгіёнах Заходняй Беларусі ўтвараліся падпольныя маладзёжныя суполкі, якія вырашылі супрацьўляцца мерапрыемствам савецкай улады, скіраваным на вынішчэнне беларушчыны. Галоўнай мэтай змагання маладзёжнага падполля было здабыццё незалежнасці Беларусі.

Падпольная арганізацыя ў Навагрудку паўстала пазней, чым падобныя групы ў Глыбокім і Паставах (канец 1945 года — пачатак 1946 гада), у Слоніме (травень-чэрвень 1946 года), у Нясвіжскім раёне і Гродне (лета 1946 года) — у лістападзе 1946-га. Адрозненнем навагрудскага Саюзу вызвалення Беларусі ад іншых арганізацый была наяўнасць у яго кіраўніцтве не толькі ўдзельнікаў беларускіх нацыянальных арганізацый і збройных фармацый часоў нямецкай акупацыі, але і былых франтавікоў Чырвонай Арміі. Да навагрудскага Саюза вызвалення Беларусі (СВБ) далучыўся і Самсон Пярловіч. Ён быў упаўнаважаным СВБ у Навагрудскім раёне.

Калі працаваў Самсон Пярловіч у Навагрудскай газеце, ён пазнаёміўся з супрацоўнікам баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная змена» Алесем Бажко (1918–2013). Аднойчы Бажко схлусіў Пярловічу, што ён з'яўляецца сябрам антысавецкай арганізацыі «Чайка». І што ён, Бажко, знаходзіцца ў вышэйшым звяне гэтай падпольнай структуры. Самсон яму паверыў. Але не ведаў навагрудскі юнак, што гэты Бажко з'яўляўся тайным агентам НКУС.




Аднойчы Бажко прыехаў у Навагрудак, сустрэўся з Самсонам Пярловічам, а той, шчыра даваряючы як сябру «Чайкі», як калегу па пяру, паказаў дом, дзе жылі іншыя сябры СВБ. А ў маі ў 1947 годзе ў Навагрудак прыехалі чэкісты, акружылі дом і ўсіх арыштавалі. Разам з чэкістамі быў і Бажко, ён усё паказваў, кіраваў, бачыў. А 30 мая 1947 года быў арыштаваны і Самсон Пярловіч. Усіх арыштаваных завезлі ў Баранавічы ў турму «Крывое кола», там іх і дапытвалі. Так былі арыштаваны 18 сяброў СВБ. Сярод іх — Генадзь Казак, Міхась Кожыч, Міхась Капціловіч, Кастусь Рамановіч, Аляксандр Ляпешка, Аляксандр Усюкевіч, Пятро Дзямянчук, Іван Макар, Міхась Мазан, Яўген Лішко, Анань Родзевіч, Сафрон Стома, Віталь Губарэвіч, Адам Шабоцка, Самсон Пярловіч і іншыя. 29–31 жніўня 1947 года Ваенны трыбунал войск МУС Баранавіцкай вобласці прысудзіў 18 сяброў СВБ да зняволення на тэрмін ад 8 да 25 гадоў канцлагераў. Найбольшы тэрмін атрымаў кіраўнік арганізацыі — Генадзь Казак, які памёр у зняволенні. Загінулі ў савецкіх канцлагерах яшчэ некалькі сяброў СВБ. Перад арыштам у Самсона Пярловіча знайшлі верш «Паднімецца крыўда», які ён напісаў у 1947 годзе. Другая страфа верша гучала так:

*Бо Сталін — тыран і старых,*
*і малых —*
*Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,*
*Нявіннай крывёй суцяшае іклы,*
*Каму колькі жыць ставіць*
*нормы…*

Пра гэты верш ведаў нават сам Цанава. Ён так хацеў паглядзець на юнака з Навагрудчыны, які набраўся мужнасці ўзняць голас супраць Сталіна, што Пярловіча з Баранавіч адправілі ў Мінск на допыт да Цанавы. Самсон Пярловіч успамінаў: «Заходжу ў кабінет. Там шмат чыноў НКУС. Выходзіць з-за стала нейкі гарбаносенькі чалавек. Гэта быў Цанава. Паказвае тэкст майго верша і пытае: «Твой?» — «Мой». — «Ды як жа ты набраўся нахабства так напісаць пра геніяльнага чалавека? Сталін — бацька народаў», — закрычаў Цанава. — «Для вас, можа, і бацька народаў, а для беларускага народа — палач», — адказваю. Малады я тады быў, гарачы, ды і тэрмін ведаў. Як цяпер бачу: Цанава ўвесь расчырванеўся і кажа па-беларуску: «Не мані!…» (зборнік «Саюз вызвалення Беларусі (1946–1947)». Слонім—Менск, «Беларускі Рэзыстанс», 2005. С.38).

**За верш і за СВБ Самсона Пярловіча асудзілі на 10 гадоў сталінскіх лагераў. Яго выслалі на лесапавал у лагер Усць-Вым (Комі АССР), потым беларускі юнак будаваў шахты імя Кастэнкі ў спецлагерах Караганды**

За верш і за СВБ Самсона Пярловіча асудзілі на 10 гадоў сталінскіх лагераў. Яго выслалі на лесапавал у лагер Усць-Вым (Комі АССР), потым беларускі юнак будаваў шахты ў спецлагерах Караганды. Гэта былі шахты імя Кастэнкі, 107-я, 120-я. Бурыў стваль, прабіваў штрэкі, ставіў умацаванні. Кастусь Рамановіч згадваў: «Я разам з Пярловічам прайшоў праз пакуты на лесапавалах Усць-Вым, на будаўніцтве шахтаў у Карлагу, спаў разам з ім на голых нарах. І там, на голых нарах, Пярловіч складваў вершы без алоўка, якія мы вучылі на памяць для будучыні» («Наша Ніва», 15 лютага 2002 г.).

З студзеня 1956 года навагрудскага хлопца вызвалілі з лагераў. Ён павінен быў яшчэ адбываць высылку ў Сарані Карагандзінскай вобласці Расіі, але яна была адменена.

Восенню 1956 года Самсон Пярловіч вярнуўся ў родны Навагрудак. Але адразу ў рэдакцыю раённай газеты не пайшоў, бо там быў арыштаваны і зняты з працы. А ўладкаваўся на працу на Навагрудскі завод газавай апаратуры, дзе адпрацаваў каля сарака гадоў. За яго на заводзе ніхто лепш і ніколі не змог зрабіць разца, затачыць фрэзу, зенкер. Працуючы на заводзе, ён марыў мець свой куточак, свой пакойчык. І такую магчымасць ён атрымаў, дзякуючы адміністрацыі завода. Але потым збег абставін усё перакрэсліў…

У апошнія гады жыцця Самсона Пярловіча часта можна было бачыць на рынку ў Навагрудку. Там ён гандляваў рознымі запчасткамі, жалезкамі і кніжкамі. А мясцовы люд разносіў па горадзе розныя плёткі. Але няшмат людзей ведалі, што ён мусіў зарабляць любым спосабам грошы, каб аддаць даўгі за аперацыю, што зрабілі дачцэ ў Германіі.

А яшчэ, ён заўсёды пісаў вершы. Але шмат радкоў засталося, напісана ім пра сталінскія зняволенні:

*Злы вецер выў над галавою,*
*Мароз пякельны твар паліў,*
*А я пілою лучкавою*
*Бярозы, ліствіцы валіў.*
*Уздрыгваў дол, стагналі дрэвы,*
*Пякучы снег хвастаў чало.*
*Тайзе ж направа і налева*
*Канца і краю не было…*

Пры жыцці Самсону Пярловічу ўдалося ў Навагрудку выдаць два зборнічкі сваіх вершаў — «Заяц на бярозе» (1995) і «Чарадзейны агонь» (1998). А прафесар Алег Лойка падрыхтаваў яго зборнік вершаў «Бяссмертнік» і выдаў у Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1994 годзе. У прадмове да яго Алег Лойка напісаў: «Кніга Самсона Пярловіча «Бяссмертнік» — гэта найперш кніга яго жыццёвага лёсу, асабліва сваім першым раздзелам — «За калючымі дратамі…». І гэта разам з тым і кніга народнага лёсу, складаных гістарычных шляхоў, якімі беларусы ішлі праз XX стагоддзе».

Сябра Саюза вызвалення Беларусі і паэта Самсона Пярловіча не стала 14 снежня 2001 года. Пры жыцці ён так і не дачакаўся рэабілітацыі, як і не дачакаліся яе Васіль Супрун з патрыятычнай «Чайкі», паэтка Ларыса Геніюш і тысячы іншых патрыётаў нашай Бацькаўшчыны.

ВЕЧАРЫНА

# У ГОНАР КАЛІНОЎСКАГА

**Арцём ЛЯВА**

**1 лютага ў гонар Кастуся Каліноўскага ў Палацы мастацтваў адбылася паэтычна-музычная вечарына. Імпрэзу вёў мастак Мікола Купава.**

Цягам амаль дзвюх гадзін перад наведнікамі выступалі барды і паэты. Прадэманстраваныя творы былі прасякнутыя ідэяй любові да Бацькаўшчыны і змагання за яе свабоду.

На сцэну з гітарай выходзілі Аляксей Галіч, Галіна Ярашэвіч, Ганна Чумакова, Сяржук Доўгушаў, Зміцер Бартосік, Таццяна Матафонава з сынам, адыграла трыа маладых музыкаў — Ярына Лецка, Мікіта Рабухін, Антон Касцюкоў. Са сваімі творамі выступалі Язэп Янушкевіч, Сяргей Панізнік, Алесь Разанаў, Генадзь Тумаш.

Кожны прапаноўваў 2–3 найлепшыя песні са свайго рэпертуару, якія пасавалі адначасова ўрачыстаму і стрымана-філасоўскаму настрою вечарыны. Гучала музыка, перапляталася са сказанымі да месца непафаснымі, але трапнымі словамі.



ВІНШУЕМ

# АНАТОЛЮ ГРЫЦКЕВІЧУ — 85



**Вядомаму беларускаму навукоўцу, гісторыку Анатолю Грыцкевічу 31 студзеня споўнілася 85 гадоў.**

Анатоль Грыцкевіч — аўтар некалькіх сотняў навуковых прац і манаграфій, аўтар дзясяткаў кніг, прысвечаных гісторыі, у тым ліку часоў ВКЛ і Беларусі перыяду барацьбы за незалежнасць.

«Гісторыя Беларусі мяне заўсёды цікавіла, і я пачаў ёю займацца адразу ж пасля заканчэння інстытуту. Але палітычная гісторыя Беларусі пачала вывучацца і даследавацца, фактычна, гадоў трыццаць таму. Калі я працаваў яшчэ ў Інстытуце гісторыі, то было зразумела, што вывучаць гісторыю не дазволяць, а таму перайшоў на педагагічную працу і адначасна працягваў даследаванні. Цяперашняе пакаленне гісторыкаў нават не ведае, як складана было займацца навукай, як забаранялі кнігі і гэтак далей. За апошні час было зроблена нямала, і цяпер больш магчымасцяў, але некаторыя пішуць абы-што — на жаль, так. Магчыма, што няма адпаведнай падрыхтоўкі, але ў цэлым гісторыя ідзе як трэба. І нават дзяржаўныя ўлады нешта прымаюць, калі ўвесь час даказваць і сцвярджаць. У цэлым я настроены аптымістычна», — сказаў «Свабодзе» Анатоль Грыцкевіч.



ЮБІЛЕЙ

# ПУЦЯВІНА ЖЫЦЦЯ АРСЕНЯ ЛІСА

**«Сваёй пуцявінай» — так назваў свае ўспаміны Арсень Сяргеевіч Ліс, якія прапанаваў для публікацыі на старонках нашай газеты. І гэтым аказаў нам вялікі гонар. І гэтым, хаця б і ўскосна, мы спрычыніліся да справы выбітнага навукоўца, пісьменніка і грамадскага дзеяча сучаснай Беларусі.**



Фота Андрэя Лянкевіча

Справай усяго яго жыцця, калі ацаніць змест, сэнс і вынікі наробку, ёсць ні што іншае, як справа Беларускага адраджэнскага руху. Арсень Ліс дадаў у гэту агульную гістарычную справу свой важкі ўнёсак. Арсень Ліс — адна са знакавых асоб беларускага адраджэння.

Нарадзіўся ён 4 лютага 1934 года. У звычайнай сялянскай сям'і, у тыповай беларускай вёсцы Вётхава, што бліз Залесся ў Смаргонскім раёне. Але ж і не ў зусім звычайнай, і не ў зусім тыповай. Бо было тое ў Заходняй Беларусі. Бо ў бацькоўскай хаце не проста гучала беларуская мова, што на той час было натуральным, але і на пачэсным месцы ляжалі беларускія кніжкі. З вуснаў бацькі пачуў ён вершы па-беларуску, што чыталіся тым на памяць. А дзядзька яго адсядзеў пэўны тэрмін у знакамітай Лукішскай турме за ўдзел у беларускім руху.

Як адзначыў Арсень Ліс у сваіх успамінах: «Разабрацца ў цякучым жыцці, зарыентавацца ў афіцыйнай ідэалогіі і рэальнай палітыцы, якую яна прыкрывала, як цяпер разумею, мне найболей дапамагла літаратура, беларускае мастацкае пісьменства. ... Літаратура «нашаніўскай» пары. А яшчэ заходнебеларуская, віленская перыёдыка 1920–1930-х гадоў — сапраўднае люстра беларускага жыцця, лёсу пакалення даваеннага часу».

На тым гістарычным адрэзку часу, што выпаў пакаленню Арсеня Ліса, яго асабісты шлях адраджэнца мог быць і стаўся шляхам не змагара на барыкадах, а творцы — удумлівага даследчыка, літаратара і навукоўца.

Савецкае абрамленне гэтага шляху — школа, філфак БДУ, аспірантура, абарона кандыдацкай, доктарскай дысертацый — не паўплывала на яго сутнасны змест. Арсень Ліс у сваіх навуковых даследаваннях, у сваіх нарысах, кніжках пастаянна, упарта, натхнёна адраджаў, вяртаў з небыцця імёны і справы дзеячаў нацыянальнага руху. Сцвярджаў беларушчыну. Сцвярджаў беларускую нацыянальную ідэю.

Вось няпоўны сухі пералік напісаных ім кніг: «Браніслаў Тарашкевіч», «Мікола Шчакаціхін», «Пётра Сергіевіч», «Купальскія песні», «Пякучай маланкі след», «Вечны вандроўнік», «Песню — у спадчыну», «Валачобныя песні».

А яшчэ спадар Арсень шмат гадоў збіраў і аналізаваў фальклор. Разам з калегамі выдаў акадэмічны збор беларускай народнай творчасці. Пісаў сцэнары дакументальных фільмаў. І літаральна днямі ў серыі «Кнігазбор» выйшаў том «Выбранае» Арсеня Ліса.

А калі выпаў час, Арсень Ліс не хістаючыся далучыўся да практычных спраў Беларускага адраджэння. Ён адзін з заснавальнікаў «Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», да гэтага часу — сябра Малой рады «Бацькаўшчыны».

З юбілеем, дарагі Арсень Сяргеевіч. Здароўя, моцы духу і творчых поспехаў. Будзем вельмі рады пачуць ад вас: «Я тут напісаў новы раздзел сваіх успамінаў, забірайце!»

**Аляксей Кароль**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 160

Падпісана да друку 07.02.2014. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.